## «АЎРАЛ» У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Іншыя дэпутаты выказалі думку, што адабрэнне гэтага закона выкліча раскол у грамадстве, паколькі як ранейшая сімволіка Рэспублікі Беларусь, так і сімволіка БССР такім чынам будзе па-за законам. Нават Камісія па адукацыі, навуцы і культуры прызнала неабходным прыняць асобны закон аб наданні бела-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня», а таксама сімвалам БССР нейкага афіцыйнага статусу, каб не выклікаць спрэчкі ў грамадстве на гэтай глебе, каб стварыць цывілізаванае сумеснае існаванне старой і новай, дзяржаўнай і нацыянальнай сімволікі. Але большасць дэпутатаў настаяла на тым, каб спачатку прызнаць ранейшыя сімвалы страціўшымі сілу, а потым іх нейкім чынам узаконіць. Такім чынам, за закон прагаласавала 120 дэпутатаў і толькі 5 чалавек выказалася супраць.

Нечакана 28 чэрвеня было ўключана ў парадак дня сесіі пытанне аб імянных прыватызацыйных чэках «Маёмасць». Дарэчы, яно было закранута яшчэ падчас выступленняў дэпутатаў у «Розным». Справа ў тым, што каля 30 працэнтаў жыхароў Беларусі не атрымалі чэкі. А час іх атрымання, як вядома, ужо скончыўся. Таму і было прапанавана Людмілай Грazновай працягнуць тэрмін афармлення чэкаў да 31 снежня 1996 года. Парламент прыслухаўся да гэтай прапановы і падтрымаў яе, даўшы такім чынам магчымасць атрымаць чэкі «Маёмасць» тым, хто яшчэ не абзавёўся імі.

Акрамя ўсяго, у Вярхоўным Савеце разглядаліся ў першым чытанні два новыя законапраекты: «Аб гуманітарнай дапамозе насельніцтву Беларусі» і «Аб упаўнаважаных па правах чалавека Рэспублікі Беларусь». Гэтыя дакументы таксама атрымалі ўсебаковую ацэнку дэпутатаў.

Учарашні дзень выявіў яшчэ адну кандыдатуру і на пасаду галоўнага рэдактара «Народнай газеты». Яна была прапанавана на пасяджэнні Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі. Гэта дэпутат Вярхоўнага Савета, былы супрацоўнік газеты «Рэспубліка» Леанід Юнчык. Ён набраў больш галасоў членаў камісіі, чым астатнія два прэтэндэнты —Мікалай Галко і Міхаіл Шыманскі. Праўда, гэта яшчэ нічога не азначае, паколькі лёс рэдактара канчаткова вырашыць Вярхоўны Савет. Мяркуецца, што гэтае пытанне будзе ўзнята толькі праз тыдзень. Наступныя пасяджэнні сесіі адбудуцца толькі 9—12 ліпеня. Відаць, гэта будуць апошнія пасяджэнні першай сесіі. Пасля гэтага дэпутаты пойдуць на перапынак для таго, каб вярнуцца на сесію толькі ў верасні бягучага года.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТАРЫ ВЫБІРАЮЦЬ СФЕРУ ГАНДЛЮ І АКАЗАННЯ ПАСЛУГ

**На пачатак бягучага года ў сталіцы рэспублікі зарэгістравана 667 замежных і 1297 сумесных прадпрыемстваў, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца прадстаўнікі больш як 60 краін свету. Найбольшую інвестыцыйную актыўнасць праяўляюць дзелавыя колы Польшчы (21,1 працэнта), Германіі (14,8 працэнта), ЗША (10,5 працэнта) і Італіі (8,6 працэнта).**

Паказчыкам сур'ёзных адносінаў інвестараў да сваёй прысутнасці на беларускім рынку і, у прыватнасці, у горадзе Мінску служыць павелічэнне аб'ёмаў статутнага фонду сумесных і замежных прадпрыемстваў. Сёння ён складае 317 млн. долараў ЗША, што на 20 працэнтаў больш, чым у папярэднім годзе. Сярэдні статутны фонд сумесных прадпрыемстваў павялічыцца на 12 працэнтаў, а замежных -- на 44 працэнты.

Толькі ў першым квартале бягучага года СП і ЗП асвоена 8 мільярдаў капіталаўкладанняў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ШАР НАД ВІЛЬНЮСАМ

У ноч з 26 на 27 чэрвеня экіпаж дзяжурнага аўтамабіля дарожнай паліцыі, які знаходзіўся за 17 кіламетраў ад Вільнюса, на шашы, што вядзе ў Малетай, узняў па трывозе службы надзвычайнай сітуацыі Літвы. Паліцэйскія заўважылі недалёка ад дарогі дзіўны вогненны шар, які то змяншаўся да 5 метраў у дыяметры, то павялічваўся да 50, утвараючы шум, падобны на моцны трэск электраразрадаў.

Пакуль на месца здарэння прыбыло падмацаванне, вогненны шар знік, не пакінуўшы ніякіх слядоў. Служачы бензакалонкі, якая знаходзілася недалёка, пацвердзіў, што чуў нейкі дзіўны шум.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**

## ЗАМЕЖНЫЯ АГРАРНІКІ Ў ГАСЦЯХ У СПІКЕРА

**28 чэрвеня адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага з кіраўнікамі дэлегацый дэпутатаў аграрных партый Расіі, Украіны, Латвіі, Польшчы і Германіі. На сустрэчы таксама прысутнічалі лідэр фракцыі аграрыяў у Вярхоўным Савеце Мечыслаў Гіруць, а таксама члены гэтага дэпутацкага аб'яднання.**

Нягледзячы на тое, што госці прыбылі ў Беларусь, каб узяць удзел у рабоце 3-й Усебеларускай канферэнцыі Аграрнай партыі, якая адкрылася сёння, гутарка ў Вярхоўным Савеце перш за ўсё пайшла пра грамадска-палітычнае становішча ў Беларусі, пра сістэму заканадаўчай улады ў краіне. Як адзначыў С. Шарэцкі, адметнасць Беларусі заключаецца ў тым, што тут ніколі не стаяла востра нацыянальная праблема, што ў рэспубліцы не існуе неабходнасці цвёрдай улады для захавання дзяржавы. Тым не менш, закраналіся і праблемы сельскагаспадарчага комплексу краіны, яго роля ў працэсе станаўлення самастойнасці беларускай эканомікі. С. Шарэцкі ў гэтым сэнсе адзначыў, што пакуль не хапае самастойнасці асобным кіраўнікам, якія па-ранейшаму спадзяюцца на дапамогу і параду зверху і не імкнуцца праяўляць уласную ініцыятыву. Гэта адна з галоўных хвароб эканомікі.

Больш падрабязна гэтыя ды іншыя пытанні абмяркоўваліся ў той жа дзень на «круглым стале», арганізатарам якога стала Аграрная партыя, а таксама на сённяшняй канферэнцыі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*Уладзімір СЯНЬКО:*

## «ВІЗІТ У ФРАНЦЫЮ ДАПАМОЖА БОЛЬШ ШЫРОКАМУ СУПРАЦОЎНІЦТВУ З ЗАХАДАМ»

**Сустрэчу з журналістамі міністр замежных спраў Уладзімір Сянько пачаў з інфармацыі аб маючым хутка адбыцца афіцыйным візіце Аляксандра Лукашэнкі ў Францыю**

Як ужо паведамлялася, ён пройдзе з 11 па 13 ліпеня. У МЗС рэспублікі яму надаюць асаблівае значэнне. Ключавымі момантамі стануць перагаворы з прэзідэнтам Жакам Шыракам, падпісанне міждзяржаўнага дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве. Адбудзецца шэраг сустрэч з вядомымі палітыкамі і прадстаўнікамі фінансавых і дзелавых колаў Францыі, у прыватнасці Нацыянальнага банка.

Наступны візіт Прэзідэнт Беларусі зробіць у Турцыю. Таксама вядзецца папярэдняя работа па падрыхтоўцы візітаў Аляксандра Лукашэнкі ў шэраг заходніх краін.

З буйных міжнародных мерапрыемстваў, да ўдзелу ў якіх Беларусь ставіцца сур'ёзна і на якія ўскладае пэўныя надзеі, Уладзімір Сянько вызначыў сустрэчу на вышэйшым узроўні ў рамках арганізацыі НБСЕ (Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе), дзе будзе абмяркоўвацца канцэпцыя бяспекі XXI стагоддзе. Самміт запланаваны на канец года ў Партугаліі.

Гэта ў перспектыве, а ў бліжэйшы час цікавай абяцае быць сустрэча ў Брэсце міністраў замежных спраў Беларусі, Польшчы і Украіны. Яна намечана на 20 ліпеня.

Сярод поспехаў нашай дыпламатыі на працягу апошніх месяцаў Уладзімір Сянько адзначыў прыняцце Беларусі ў шэраг аўтарытэтных арганізацый, як, напрыклад, ААНаўская ЭКАСОС, Канферэнцыя па раззбраенню і іншыя. На думку міністра, гэта сведчыць аб імкненні нашай краіны весці актыўную дыпламатычную дзейнасць па ўсіх напрамках. За членствам у гэтыя арганізацыі стаіць праца не аднаго года.

Як заўсёды на падобных брыфінгах з прэсай, закранаюцца самыя разнастайныя пытанні. І адказы міністра на іх уяўляюць цікавасць для нашых чытачоў. Так, на думку Уладзіміра Сянько няўдзел Беларусі ў аперацыях па падтрыманню міру ў пэўнай ступені азначае нашу самаізаляцыю ў свеце. І зусім не выпадкова амаль што ўсе краіны ўдзельнічаюць у гэтых аперацыях.

Што датычыць увядзення з 1 ліпеня г. г. новых правілаў выезду і ўезду ў Беларусь, пра якія нядаўна заявіў Аляксандр Лукашэнка, міністр сказаў наступнае: гаворка ў вядомай прамове Прэзідэнта ішла выключна пра дзяржаўных чыноўнікаў. Абвешчаныя абмежаванні маюць на мэце эканомію валютных сродкаў, бо яны ў час камандзіровак служачых дзяржапарату не заўсёды расходаваліся рацыянальна. Што датычыць іншых катэгорый насельніцтва, то рэжым выезду для іх застаецца нязменным.

Магчыма, неўзабаве ў сталіцы Беларусі з'явіцца гандлёвая місія Тайваня, якая будзе адкрыта ў рамках развіцця адносінаў паміж Мінскам і Тайбэем.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**УКРАІНА З НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫЯЙ**

Парламент Украіны ўхваліў новую Канстытуцыю Украіны, першую пасля распаду СССР. Дэбаты па яе прыняцці працягваліся цэлую ноч пасля заявы прэзідэнта краіны Леаніда Кучмы паставіць прыняцце Канстытуцыі на рэферэндум. Дэпутаты левага крыла парламента настойвалі на старых, савецкіх сімвалах. Прыхільнікі Кучмы настойвалі на ўключэнні ў Асноўны закон права на прыватную ўласнасць, замацаванні за ўкраінскай мовай статусу адзінай дзяржаўнай мовы і прызнанні дзяржаўнымі сімваламі тых, што былі прыняты пасля абвяшчэння незалежнасці Украіны. Дагэтуль Украіна заставалася адзінай сярод былых савецкіх рэспублік, у якой не было Канстытуцыі.

**ЯШЧЭ АДЗІН ТЭРАКТ?**

5 чалавек загінулі і каля 20 атрымалі раненні ў выніку выбуху рэйсавага аўтобуса на аўтавакзале ў Нальчыку. Аўтобус, які накіроўваўся з Мінеральных Вод ва Уладзікаўказ поўнасцю знішчаны. Сур'ёзна пашкоджаны другі аўтобус, што стаяў побач. Прычыны выбуху пакуль невядомыя.

**ЕЛЬЦЫН «ПЕРАНАПРУЖЫЎСЯ» ПАДЧАС ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ**

Барыс Ельцын не прысутнічаў учора на адкрыцці Усерасійскай нарады работнікаў сельскай гаспадаркі ў Крамлі. Згодна з агенцтвам Рэйтэр, прэм'ер-міністр Расіі Чарнамырдзін паведаміў удзельнікам нарады, што ў прэзідэнта «сеў» голас з-за напружання падчас выбарчай кампаніі. Прадстаўнік прэзідэнта паведаміў журналістам, што Ельцын адчувае сябе добра, працуе і вядзе падрыхтоўку да другога тура выбараў.

**КАНГРЭС ЗША ЗНОЎ НЕ ПАДТРЫМАЎ ПРЭЗІДЭНТА**

Кангрэс Злучаных Штатаў Амерыкі не ўхваліў прапанову прэзідэнта Клінтана аб прадастаўленні Кітаю рэжыму найбольшага спрыяння ў гандлі, што дазволіла б Пекіну прадаваць свае вырабы па больш нізкіх цэнах. Дзве трэці членаў ніжняй палаты кангрэса пасля гарачых дэбатаў па правах чалавека ў Кітаі прагаласавалі супраць.

**НАФТУ Ў АБМЕН НА ХАРЧАВАННЕ**

Ірак прадаставіў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пералік неабходнага для краіны харчавання. Паводле прынятага ў мінулым месяцы рашэння Іраку дазволена прадаваць частку сваёй нафты ў абмен на неабходнае яму харчаванне і лекі. Продаж нафты не пачнецца да таго часу, пакуль ААН не дасць згоды на план дэталёвага размеркавання прадуктаў сярод насельніцтва. На разгляд плана ёй спатрэбіцца некалькі дзён.

**ХУТКА ПАВАРОЦІ СТАНЕ НЕ ДА СПЕВАЎ**

Ужо пэўны час жыццём вядомага італьянскага тэнара Лучана Павароці кіруе яго новае каханне — Нікалета. Паварoці такі расклад спраў ніколькі не засмучае. Дзякуючы дзейнасці маладой жанчыны спявак, які пакутуе ад празмернай вагі, за кароткі час «скінуў» 15 кілаграмаў. Аднак Нікалета, па яе словах, чакае ад свайго рыцара іншага — яна хацела б нарадзіць Лучана пяцёра ці шасцёра дзяцей, у тым ліку хоць аднаго хлопчыка. Амбіцыйная дамачка заявіла таксама, што Паварoці завершыць свой творчы шлях у 2001 годзе, ды яшчэ і операй, якую ён ніколі не выконваў і якая сімвалізуе лёс закаханай пары. Гэта твор Вердзі «Улада рока».

***Радаё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## АПЯРЭДЗІЦЬ НАВАЛЬНІЦУ

**Рабочыя хваляванні на некаторых прамысловых прадпрыемствах — трывожны сімптом**

Некалькі забастовак, якія адбыліся на мінулым тыдні на буйных прамысловых прадпрыемствах Беларусі — мінскім «БелВАРы», віцебскім «Маналіце» і Гомельскім заводзе вымяральных прыбораў — трывожны сімптом і папераджальны сігнал для ўладаў.

Гэтыя забастоўкі сталі выражэннем стыхійнага пратэсту працоўных калектываў, рэакцыяй на катастрафічную сітуацыю з выплатай зарплаты. Паводле інфармацыі, якая паступала ў гэтыя дні з баставаўшых прадпрыемстваў, да арганізацыі акцый пратэстаў не маюць дачынення ні апазіцыйныя палітычныя партыі, ні незалежныя прафсаюзы. Гэты факт — асабліва сур'ёзная падстава для таго, каб урад у бліжэйшы час прыняў кардынальныя меры ў сферы эканомікі. Стыхійныя адзінкавыя хваляванні на прадпрыемствах — відавочна, першыя водбліскі блізкай навальніцы.

Мала хто чакаў, што пратэсты ў рабочым асяроддзі пачнуць праяўляцца ўлетку, у разгар водпускаў. Тым не менш, гэта адбылося і адбываецца. Малаверагодна, што хваля забастовачнага руху ў бліжэйшыя тыдні будзе нарастаць. Аднак тое, што негатыўная небяспечная энергія нездаволенасці і пратэсту на дзесятках і сотнях беларускіх прадпрыемстваў нарастае і яе канцэнтрацыя дасягае выбухованебяспечных памераў — відавочны факт. Прагнозы апазіцыйных сіл і прафсаюзаў адносна таго, што сёлетняя восень ператворыцца ў забастовачную і мітынговую, у гэтым кантэксце выглядаюць праўдападобнымі і рэальнымі.

Пакуль што ўрад і адміністрацыя прадпрыемстваў спрабуюць гасіць канфлікты з дапамогай тэрміновых крэдытаў, якія цэнтралізавана выдаткоўваюцца бастуючым заводам. Аднак такая тактыка, пры ўсёй яе знешняй эфектыўнасці, вельмі небяспечная. Залатаўшы адну дзірку, можна нарабіць мноства іншых. Убачыўшы, што сілавы ціск на ўлады дае хуткі жаданы эфект, да аналагічных акцый пратэсту могуць звярнуцца дзесяткі іншых прадпрыемстваў, якія пакуль што церпяць і ўстрымліваюцца ад забастовак, хоць становішча на іх зусім не лепшае, чым на «БелВАРы» ці «Маналіце».

Да таго ж, браць грошы на пагашэнне запазычанасці па зарплаце дзяржаве проста няма адкуль. Заводы самі павінны зарабляць сродкі на сваё існаванне, прадаючы ўласную прадукцыю, а не перагружаць склады нікому не патрэбнымі, дарагімі і няякаснымі таварамі, выпрацаванымі толькі дзеля таго, каб адрапартаваць уладам, што іх указанне не зніжаць аб'ём вытворчасці выканана.

Беларускаму ўраду ў сённяшняй сітуацыі наўрад ці выпадае наладжваць сабе летнія вакацыі. Застаецца ўсяго некалькі месяцаў, каб папярэдзіць магчымы надзвычай неспрыяльны ход падзей. Гэтага часу, зразумела, недастаткова, каб карэнным чынам змяніць сітуацыю і палегчыць становішча рабочых. Аднак яго цалкам хапае для таго, каб пачаць выходзіць з тупіка, абазначыць шлях, які вядзе з крызісу; перастаць падманваць сябе і людзей, што магчыма вяртанне назад, што рэальны нейкі іншы выхад, акрамя рэфарміравання сістэмы ўласнасці, пераходу на сусветныя стандарты ў тэхналогіі і якасці і — цяжкога пераходнага перыяду, які вядзе да жаданай мэты.

Людзі нашы цярплівыя — падтрымаюць і згодзяцца пацярпець яшчэ, калі толькі павераць, што іх не падманваюць і вядуць сапраўды туды, куды варта ісці.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Якая самая дрэнная форма здрады жонкі мужу? Калі жанчына... ходзіць на працу. У гэтым глыбока перакананы адзін з духоўных аўтарытэтаў Саудаўскай Аравіі шэйх Абдэль Азіз ібн База. Разам са сваімі аднадумцамі шэйх папярэджвае, што жанчына, якая працуе, можа стаць д'яблам і асобай, схільнай да насілля.

**ІТАР-ТАСС**

*Амерыцы выдзелілі пакуль толькі адзін з эпізодаў кнігі, якая выходзіць там да прэзідэнцкіх выбараў. Ён расказвае аб тым, што першая лэдзі Хілары Родхэм Клінтан кансультавалася з празорцамі і медыумамі. Яны быццам бы дапамаглі ёй пагутарыць з духам Элеаноры Рузвельт аб ролі жонкі прэзідэнта. Нічога асаблівага, калі не ўзгадаць, што размовы аб тым, быццам жонка прэзідэнта Рэйгана Нэнсі звярталася да паслуг астролагаў, у свой час нанеслі немалы палітычны ўрон Беламу дому.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Спартыўная сумка, якая краталася на паліцы камеры захоўвання цэнтральнага рынку Пермі, прыцягнула ўвагу ахоўніка. Адкрыўшы багаж, ён знайшоў у ёй хлопчыка. У дзіцяці моцна зацяклі рукі і ногі. Але ён цярпеў і маўчаў. Калі б зверху не паставілі другую цяжкую сумку, ён бы выцерпеў выпрабаванне. Высветлілася, што пермскія зладзеі здавалі сумку з хлопчыкам у карыслівых мэтах. Хлопчык выбіраўся з сумкі і капаўся ў чужых рэчах.

**ЕАН.**



*Віншуем з днём нараджэння дарагога нам сына Мікалая Манкевіча.*

*Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця і радасці ў сямейным жыцці.*

***Мама і тата.***

*Сардэчна віншуем Леаніда Віктаравіча Гіро з 36-годдзем. Жадаем шчасця, моцнага здароўя, дабрабыту і поспехаў у працы яму і яго сям'і.*

**Родныя,** *г. Беразіно.*

*Віншуем з 10-годдзем вяселля Юрыя і Алу Курловічаў.*

*«Вам состариться с женой на одной подушке, чтоб прожить года с любовью, что даны кукушкой. Чтобы горе и печали пополам делить, чтобы длинными ночами слёзы вам не лить!»*

***Бацькі, сястра Лена.***

*Дарагіх унукаў Колю і Сяржу Банасевічаў з Белаазерска віншую з днём нараджэння.*

*Здароўя, весялосці і шчасця зычу вам.*

*Івацэвіцкі раён,* ***дзед Мікалай.***

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 4.39 | 21.45 | 17.06 |
| Віцебск — | 4.21 | 21.43 | 17.22 |
| Магілёў — | 4.29 | 21.34 | 17.05 |
| Гомель — | 4.36 | 21.22 | 16.46 |
| Гродна — | 4.57 | 21.58 | 17.01 |
| Брэст — | 5.06 | 21.50 | 16.44 |

**МЕСЯЦ**

Поўня 1 ліпеня

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Ціхана
К. Пятра і Паўла

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па ўсходніх раёнах кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску — 16—18, Гомелі — 17—19, Мінску — 18—20, Гродне — 19—21, Брэсце — каля 21 градуса.

У наступныя двое сутак: 30-га ўдзень — па захаду, 1 ліпеня — на значнай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература 30-га ўначы — 6—11, удзень — 19—24, па захаду — 16—18, 1-га ўначы — 9—14, удзень — 15—20 градусаў цяпла.

## РОСТ ГАРАДОЎ — БЯСПЕКА ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ?

*Вядома, што ў Беларусі ў адным горадзе пражывае больш за мільён жыхароў. Гэта наш Мінск. А колькі ўсяго ў свеце гарадоў-мільянераў? Які з іх самы вялікі?*

**Алена ГАЙКОВІЧ,** *г. Мінск.*

Трэба адразу адзначыць, што пад уздзеяннем натуральнага прыросту насельніцтва і міграцыі з сельскай мясцовасці праз дзесяць гадоў палова насельніцтва свету будзе жыць у гарадах, многія з якіх будуць знаходзіцца ў самых бедных краінах свету. Гэта абвастрыць ужо існуючыя ў гарадах праблемы, звязаныя з нармальнай работай транспарту, аховай здароўя, жыллёвымі праблемамі, занятасцю і г.д.

Каб падкрэсліць імклівы рост гарадскога насельніцтва, скажам, у 1950 годзе ў свеце былі 83 гарады з насельніцтвам больш за мільён чалавек, 34 з якіх знаходзіліся ў краінах, якія развіваюцца. У тым жа годзе толькі ў буйнейшым тады горадзе свету — Нью-Йорку — пражывала больш за 10 мільёнаў жыхароў. Сёння ж гарадоў, дзе жыве больш за 10 мільёнаў чалавек, — 14, а Токіо, буйнейшы горад планеты, мае 26,5 мільёна насельніцтва. Сёння больш за 280 гарадоў (у тым ліку і Мінск) маюць больш за 1 мільён жыхароў. Усе новыя гарады-мільянеры, таксама ж як і 11 з 15 буйнейшых гарадоў свету, знаходзяцца ў краінах, якія развіваюцца.

У Афрыцы гарады растуць хутчэй, чым у любым іншым рэгіёне, галоўным чынам у выніку міграцыі людзей, якія ўцякаюць ад беднасці ў вёсцы. Доля афрыканцаў, якія жывуць у гарадах, вырасла з 14,7 працэнта ў 1950 годзе да 32 працэнтаў у 1994 годзе. Па прагнозах спецыялістаў, у 2015 годзе каля 19 працэнтаў афрыканцаў будуць жыць у гарадах з насельніцтвам больш за 5 мільёнаў, тады як у 1994 годзе гэты паказчык складаў 8,1 працэнта.

## НАШЫ ЗЕМЛЯКІ Ў СВЕЦЕ

*Мой дзядуля ў пачатку 30-х гадоў ездзіў на заробкі з Заходняй Беларусі ў Амерыку. Праўда, па расказах бабулі, тады ён прыехаў ні з чым. Але некаторыя яго землякі ўсё ж засталіся там. Потым частка аднавяскоўцаў была вывезена на Захад у час другой сусветнай вайны, некаторыя з іх таксама не вярнуліся. Мае знаёмыя нядаўна выехалі на пастаяннае месца жыхарства ў ЗША. Мяркую, што мае землякі не адзінокія...*

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ,**
*Брэсцкая вобласць.*

Гэта сапраўды так, Уладзімір. На думку вучоных Інстытута гісторыі АН Беларусі, каля 3,5 мільёна асоб беларускай нацыянальнасці пражывае за межамі сваёй гістарычнай радзімы. Першае буйное перасяленне нашых землякоў было адзначана ў канцы XIX стагоддзя, калі ў асноўным па эканамічных меркаваннях толькі ў Сібір перасялілася каля 700 тысяч чалавек і ці не столькі ж асела ў краінах Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі і Еўропы. Праз паўтара дзесятка гадоў яшчэ 120 тысяч з'ехала ад польска-нямецкай акупацыі, дзвюх рэвалюцый у Расіі. Яшчэ 200—250 тысяч пакінулі Беларусь з 1921 па 1939 гг. (у асноўным з заходніх рэгіёнаў). Аднак аснову сучаснай дыяспары складае хваля, выкліканая другой сусветнай вайной. З паўтара мільёна эвакуіраваных на ўсход СССР толькі кожны трэці потым вярнуўся назад. Амаль 700 тысяч жыхароў Беларусі былі гвалтоўна вывезены ў Германію, адкуль не рызыкнулі вярнуцца амаль 240 тысяч чалавек. Пасля вайны (да 1990 г.) змаглі выехаць з Беларусі толькі каля 50 тысяч жыхароў Беларусі, а вось за апошнія пяць гадоў гэта зрабілі ўжо 55 тысяч чалавек. Ехалі ў асноўным у Ізраіль, ЗША, Германію, значна менш — у Польшчу, Аўстралію і Канаду. Такая вось карціна складваецца.

## ВЫ — ІНВАЛІДЫ ІНШЫХ КАТЭГОРЫЙ

*Хацелася б ведаць, чаму забыліся пра мяне, як інваліда з дзяцінства, і да Дня Перамогі не аказалі ніякай матэрыяльнай дапамогі?*

**І. КЕРДОЛЬ,**
*г.п. Свіслач.*

Паважаная Ірына Уладзіміраўна, гэта пытанне, відаць, хвалюе і многіх іншых такіх людзей, пакрыўджаных лёсам.

Паведамляем, што ў адпаведнасці з пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 красавіка 1996 г. № 280 матэрыяльная дапамога ў сувязі са святкаваннем Дня Перамогі была аказана дзецям-інвалідам з дзяцінства тых ваеннаслужачых, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ці прапалі без вестак у час баявых дзеянняў у гады Вялікай Айчыннай вайны. А вось выплата такой дапамогі іншым катэгорыям дзяцей-інвалідаў вышэйуказанай пастановай не прадугледжвалася.

**Такі адказ па просьбе рэдакцыі дала начальнік аддзела па справах інвалідаў Міністэрства сацыяльнай абароны Л. КЛІМЕНКА.**

## БЕЛАРУСАЎ ЧАКАЕ ЛЁС СКІФАЎ І МАЙЯ?

*Нядаўна гасцявала ў сяброўкі ў палескай вёсцы, дзе звярнула ўвагу на такую акалічнасць: жывуць тут у асноўным старыя жанчыны, мужчын іх узросту амаль няма, маладых сем'яў не бачна. Раней жа гэтая вёска жыла і спявала, як кажуць. Хацелася б даведацца, якая працягласць жыцця ў Беларусі? Здаецца, сітуацыя ў нас не з лепшых...*

**Алена ПУХАЛЬСКАЯ,** *Мінск.*

Як паведамілі ў навукова-даследчым інстытуце працы, да пачатку так званай «перабудовы» (1985 г.) працягласць жыцця ў Беларусі ў параўнанні з іншымі рэспублікамі Саюза была даволі высокая. Цяпер жа сярэдняя працягласць жыцця ў жанчын знізілася з 77,3 да 74,3 года (57-е месца ў свеце), у мужчын — з 67,5 да 64,6 года (75-е месца ў свеце).

Але і гэта яшчэ не ўсё. Сітуацыя ў нас не тое што не з лепшых, а нават страшная. Вось некаторыя апошнія статыстычныя даныя аб нараджальнасці і смяротнасці. Пачынаючы з 1993 года насельніцтва Беларусі катастрафічна змяншаецца: у 1993 годзе — на 11 тысяч, у 1994 годзе — на 19 тысяч, а ў 1995 годзе — ужо на 32 тысячы чалавек. Па разліках акадэміка М. Цяўлоўскага, калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, то ўжо ў 2105 годзе знікне з Зямлі апошні беларус, як у свой час зніклі скіфы, майя і іншыя народы.

Сітуацыя сапраўды сур'ёзная, мы стаім на мяжы краху. Паводле даных таго ж НДІ працы, губляецца культ сям'і (напрыклад, у Магілёўскай вобласці ў студзені на 450 вяселляў прыпадала 500 разводаў), расце п'янства (прыметы хранічнага алкагалізму мае кожны чацвёрты мужчына; суадносіны пітушчых жанчын і мужчын адзін да трох; у мінулым годзе 464 дзіцяці пазбавіліся бацькоў-п'яніц; прыцягнута да адказнасці за п'янства 20.259 непаўналетніх), пашыраецца наркаманія (за апошнія дзесяць гадоў колькасць правапарушэнняў, звязаных з наркотыкамі, павялічылася ў 13 разоў; аб'ём канфіскаванага зелля вырас у 22 разы; 1097 наркаманаў учынілі правапарушэнні; у мінулым годзе на ўлік па прычыне ўжывання наркотыкаў пастаўлена 1100 асоб, што на 42 працэнты больш, чым пазалетась), павялічваецца колькасць самазабойстваў (у 1989 годзе іх зафіксавана 252, у мінулым годзе — 370, а вось спроб самазабойстваў было адпаведна 698 і 1213). Прычын таму, як вядома, шмат: эканамічны крызіс адкінуў за рысу беднасці большую палову насельніцтва, адбіваецца неспрыяльная радыяцыйная абстаноўка, забруджванне навакольнага асяроддзя, няякасная і экалагічна брудная ежа і г.д.

Вучоныя НДІ працы лічаць, што гаворка ідзе аб выраджэнні беларускага народа, а значыць, неабходна сур'ёзнае ўмяшанне кіраўніцтва краіны, каб спыніць гэты негатыўны працэс.

## СУД ПАСЛЯ СУДА

*Паважаны «Пытальнік»!*

*Мой брат асуджаны за згвалтаванне. Ужо больш як год ён знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі. Нядаўна нам стала вядома, што ён невінаваты. Справа ў тым, што сяброўка пацярпеўшай прагаварылася, што спалохаўшыся блізкасці, пацярпеўшая расказала ўсё бацькам, якія разам з ёй пайшлі ў міліцыю і падалі заяву на брата. Быў суд, і брат атрымаў тэрмін. Парайце, як яму дапамагчы, бо выходзіць, што ўсё было па добраахвотнай згодзе і пакараны невінаваты чалавек.*

**К.,** *г. Магілёў.*

На жаль, суд не заўсёды мае дастатковыя даныя для ўстанаўлення сапраўдных акалічнасцей здарэння. З гэтай мэтай і існуе Інстытут аднаўлення спраў па нававыяўленых абставінах, які прадугледжвае аднаўленне крымінальнай справы (у вашым выпадку) па акалічнасцях, невядомых суду пры вынясенні прыгавору, якія даказваюць невіноўнасць асуджанага ці ўчыненне ім менш цяжкага злачынства (п. 4. арт. 393 КПК РБ). Таму вы павінны накіраваць заяву пракурору. У заяве павінны ўказаць усе акалічнасці, якія сталі вам вядомы па крымінальнай справе брата. Пры наяўнасці падстаў пракурор павінен узбудзіць справу па нававыяўленых акалічнасцях. Пасля заканчэння расследавання справа накіроўваецца ў суд, які і ўстановіць: вінаваты ваш брат ці не пры ўстанаўленні наяўнасці ці адсутнасці акалічнасцей, на якія вы спасылаецеся.

## КАБ БЕГАЎ «ЖАЛЕЗНЫ КОНІК»

*Звяртаюся да вас з просьбай: падкажыце, калі ласка, дзе можна набыць запчасткі для трактара «Т-25».*

**Канстанцін КАРОЛЬ,**
*Валожынскі раён, в. Узбольць.*

Улічваючы, што зараз у многіх сялян ёсць уласная сельскагаспадарчая тэхніка, для якой час ад часу патрабуюцца запчасткі, газета друкуе каардынаты ўпраўлення запчастак да трактароў і сельскагаспадарчых машын аб'яднання «Белаграснаб»: г. Мінск, вул. Казлова, 25 А; тэлефоны: 36-49-42, 35-64-52. Тут вы зможаце набыць неабходнае для любых машын і агрэгатаў, праўда, перш чым ехаць у сталіцу, лепш туды напачатку патэлефанаваць. Магчыма, даведаўшыся, што трэба, вам параяць звярнуцца некуды бліжэй, напрыклад, у мясцовы райаграснаб. У Мінску ж запчасткі можна набыць за наяўны (тады тавар атрымаеце прама ў магазіне) і безнаяўны разлік (пасля паступлення грошай на рахунак запчасткі вы атрымаеце са склада).

## ЦІ МОЖНА ТРАПІЦЬ У ДРУСКІНІНКАЙСКІ САНАТОРЫЙ?

*Мяне вельмі хвалюе і цікавіць, як можна атрымаць пуцёўку для хворага дзіцяці ў санаторый нашай рэспублікі, што знаходзіцца ў літоўскім горадзе Друскінінкаі.*

**Наталля ДАРАФЕЙ,**
*г. Бабруйск.*

**Адказвае начальнік аддзела медыка-сацыяльнай рэабілітацыі і санаторна-курортнага лячэння Уладзімір ДУБРОЎСКІ:**

— У санаторыі «Беларусь», што ў г. Друскінінкаі, у дзіцячым аддзяленні выдзелены чатыры ложкі для лячэння дзяцей-інвалідаў, хворых на дзіцячы цэрэбральны параліч (ДЦП), з адным з бацькоў, што суправаджае хворага. Узрост дзяцей ад 3-х да 6 гадоў. Санаторый знаходзіцца ў падпарадкаванні Галоўнага ўпраўлення лячэбна-прафілактычных і санаторна-курортных устаноў кіраўніцтва справаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Пуцёўкі ў вышэйпамянёнае аддзяленне рассылаюцца ўпраўленням аховы здароўя аблвыканкомаў (у тым ліку і Магілёўскага). З улікам малой колькасці пуцёвак ва ўпраўленях аховы здароўя існуе вялікая чарга на іх атрыманне.

Кошт пуцёўкі для дарослага суправаджальніка — 4 мільёны 800 тысяч рублёў. 90 працэнтаў кошту яе аплачваецца за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання.

Для атрымання пуцёўкі неабходна лечачаму ўрачу (райпедыятру) звярнуцца да галоўнага педыятра вобласці.

Як бачым, сітуацыя з адпраўкай сюды на лячэнне хворых дзетак вельмі складаная. У сувязі з тым, як паведаміў рэдакцыі па тэлефоне Уладзімір Васільевіч, прапрацоўваецца пытанне аб адкрыцці такога аддзялення на базе санаторыя «Парэчча», што знаходзіцца на адлегласці 20 кіламетраў ад Друскінінкая на тэрыторыі Гродзенскай вобласці. У ім для дзяцей-інвалідаў з бацькамі, што іх суправаджаюць, мяркуецца выдзеліць15 ложкаў.

Зразумела, калі пачне функцыянаваць гэта аддзяленне, адкрыць якое варта як мага хутчэй, вастрыня важнай праблемы хоць не поўнасцю, але крыху зменшыцца.

## КАЛІ ЦЯГНЕ ПРАЦАВАЦЬ У ЛЕСЕ

*Праз вашу газету хачу даведацца, якія навучальныя ўстановы па вывучэнню лясной гаспадаркі ёсць у рэспубліцы? Якія там патрэбна здаваць экзамены? Мой шаснаццацігадовы сын вельмі цікавіцца гэтым.*

**Марыя Міхайлаўна РАДЗІВОНЧЫК,**
*Брэсцкая вобласць.*

Як паведамілі ў Міністэрстве лясной гаспадаркі, у Беларусі ёсць тры навучальныя ўстановы, дзе можна атрымаць адукацыю па спецыяльнасцях, патрэбных у лясной гаспадарцы: Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт у Мінску, Полацкі лясны тэхнікум і Барысаўскае ПТВ-202.

Як паведамілі ў прыёмнай камісіі універсітэта, жадаючыя звязаць сваё жыццё з лесам могуць паступаць на лесагаспадарчы факультэт. Калі вы выбераце спецыяльнасці «лесаінжынерная справа», «машыны і абсталяванне ляснога комплексу», «тэхналогія дрэваапрацоўчай вытворчасці», то трэба будзе здаваць матэматыку (пісьмова), фізіку і па выбару рускую або беларускую мову (вусна). Калі ж абітурыенту даспадобы спецыяльнасці «лясная гаспадарка», «садова-паркавае будаўніцтва», паказваць веды давядзецца па матэматыцы (пісьмова), хіміі і мове на выбар (вусна). Прыём дакументаў: на дзённае аддзяленне — з 26 чэрвеня па 15 ліпеня, на завочнае — па 31 ліпеня.

У Полацкім лясным тэхнікуме можна набыць спецыяльнасць «лясная гаспадарка» на базе 9 і 11 класаў. У першым выпадку трэба будзе здаваць вусна матэматыку і пісьмова — дыктант (рускую ці беларускую мову), у другім — вусна хімію і пісьмова дыктант. Заявы на дзённае аддзяленне прымаюцца з 15 чэрвеня па 31 ліпеня, на завочнае — з 3 мая па 31 ліпеня.

Як паведамілі ў Барысаўскім ПТВ-202, спецыяльнасці па лясной гаспадарцы можна атрымаць толькі на базе 11 класаў. Гэта «майстар лесу—трактарыст-машыніст» і «майстар лесу—цясляр будаўнічы». Прыём вядзецца на падставе конкурсу атэстатаў з 15 чэрвеня па меры ўкамплектавання навучальных груп.

## ДВОЙЧЫ ПЛАЦІЦЬ ЗА ПЕРАЛІЧЭННЕ КАМУНАЛЬНЫХ ПЛАЦЯЖОЎ?

*Растлумачце, калі ласка, чаму ў нашым кааператыве з мяне двойчы ўтрымалі за пералічэнне камунальных плацяжоў?*

**С. СІДАРЭНКА,** *г. Светлагорск.*

**На гэта пытанне па просьбе рэдакцыі адказаў галоўны эканаміст упраўлення эканомікі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі В. МАЛІКАЎ:**

— У адпаведнасці з Прыкладным статутам жыллёва-будаўнічага кааператыва такія кааператывы ажыццяўляюць сваю дзейнасць на асновах самаакупнасці. У сувязі з гэтым бухгалтэрыя ЖБК з яго членаў абавязана ўтрымліваць 5 працэнтаў за паслугі банка, звязаныя з пералічэннем камунальных плацяжоў ЖБК. А вось паўторнае ўтрыманне такога працэнта з'яўляецца незаконным.

## ЯК ПРЫНЯЦЬ СПАДЧЫНУ?

*Мой бацька жыў з жанчынай у яго доме. Яна — пенсіянерка. Шлюб яны не рэгістравалі, але вялі сумесную гаспадарку. Бацька памёр, і гэтая жанчына засталася жыць у яго доме. Ці можам мы, дзеці бацькі, прэтэндаваць на частку дома, калі з моманту смерці бацькі мінула ўжо 10 гадоў?*

**Т. ЧАРВЯКОВА,**
*Мінская вобл., в. Чудзенічы.*

З вашага пісьма можна заключыць, што жанчына, якая жыла з вашым бацькам, знаходзілася на яго ўтрыманні. Такім чынам, згодна з п. 6 арт. 527 ГК РБ, яна з'яўляецца наследніцай па закону і вам з ёй належалі б аднолькавыя долі ў спадчыне ў выпадку своечасовага прыняцця яе вамі. Але ў сувязі з тым, што тэрмін упушчаны, частка дома, якая павінна належаць вам, можа быць выдзелена толькі са згоды гэтай жанчыны, якая прыняла спадчыну. Гэта можа быць ажыццёўлена і па рашэнню суда, калі ён прызнае прычыны непрыняцця спадчыны ўважлівымі.

## ЯК СЫСКАЦЬ АЛІМЕНТЫ?

*Вось ужо два гады былы муж плаціць вельмі мала аліментаў. Сыну нічога не купляе і не праяўляе жадання нават сустракацца з ім. Як сыскаць аліменты з яго, калі ён нідзе не зарэгістраваны як прадпрымальнік, а працуе ў прыватніка?*

**Е. С.,**
*г. Барысаў.*

Калі добраахвотны парадак уплаты аліментаў бацькам вашага дзіцяці вас не задавальняе, то вы можаце звярнуцца з заявай аб спагнанні аліментаў у суд, гэта прадугледжвае ч. 2 арт. 102 КаШіС РБ.

У сувязі з тым, што бацька дзіцяці мае нерэгулярны заробак, даход, калі спагнаць аліменты ў долевых адносінах (1/4 заробку) вельмі цяжка, то памер выплаты сродкаў на ўтрыманне дзіцяці можа быць вызначаны ў цвёрдай грашовай суме, якая падлягае выплаце штомесячна, таму што гэта рэгламентавана ч. 1 арт. 83 КаШіС РБ. Памер гэтай сумы вызначаецца зыходзячы з мяркуемага заробку (даходу) бацькі дзіцяці.

Неабходна адзначыць, што пры змяненні матэрыяльнага ці сямейнага становішча бацькі дзіцяці, які выплачвае аліменты ў цвёрдай грашовай суме, памер аліментаў суд можа змяніць як па вашаму іску (калі матэрыяльны дастатак былога мужа павялічыўся), так і яго іску (калі матэрыяльны дастатак зменшыўся). Кантроль за выплатай аліментаў ажыццяўляе суд праз судовага выканаўцу. Пры ўхіленні асобы ад выплаты аліментаў на яго можа быць накладзены штраф або гэта асоба можа быць прыцягнута да крымінальнай адказнасці, калі ёсць прыметы злоснага ўхілення ад уплаты аліментаў.

## З ПРЫВАТЫЗАЦЫЯЙ КВАТЭР ЛЮДЗІ НЕ СПЯШАЮЦЦА

*Ніяк не магу адважыцца на прыватызацыю кватэры. Мне здаецца, што гэта проста падман людзей. Тым не менш, хацелася б даведацца, колькі ў краіне прыватызавана кватэр і іх кошт.*

**Ніна МАЗГО,** *г. Полацк.*

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, з моманту ўвядзення ў дзеянне Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» ва ўласнасць грамадзян перайшло 545,4 тысячы кватэр агульнай плошчай 28,1 мільёна квадратных метраў. Усяго ж з 1989 года па май 1996 года ва ўласнасць грамадзян перайшло 656,8 тысячы кватэр, ці 37 працэнтаў ад колькасці кватэр, якія падлягаюць прыватызацыі.

Ацэначны кошт кватэр, прыватызаваных у бягучым годзе, склаў 9657 мільёнаў рублёў, з іх 576 мільёнаў рублёў (6 працэнтаў) пагашаны жыллёвай квотай, а 3772 мільёны (39 працэнтаў) уплачана (даплачана) грамадзянамі ў лік пагашэння кошту кватэр пасля заліку жыллёвай квоты.

Кошт адной прыватызаванай кватэры ў гарадскіх паселішчах склаў у бягучым годзе 259 тысяч рублёў, у сельскай мясцовасці — 414 тысяч рублёў за кватэру (дом).

Бязвыплатна (без заліку жыллёвай квоты) прыватызавана 156 кватэр, атрыманых у выніку зносу жылых дамоў, якія належаць грамадзянам на праве ўласнасці, у сувязі са зняццем зямельных участкаў для дзяржаўных і грамадскіх патрэб. Іх ацэначны кошт склаў 787 мільёнаў рублёў, ці 5 мільёнаў рублёў у сярэднім за кватэру (дом).

**Адказы на пытанні чытачоў падрыхтавалі Уладзімір АНДРЫЕВІЧ, Іван БРАЛКА, Сяргей РАСОЛЬКА, Віктар ШЧУЧЭНКА.**

# Саша ВАРЛАМАЎ: «МЯНЕ ЗАЎСЁДЫ ВУЧАЦЬ ЖАНЧЫНЫ...»



### РАДКІ З БІЯГРАФІІ

**Нарадзіўся 6 мая 1955 года ў Мінску. Маці была паштовым работнікам, бацька спачатку будаваў кінатэатр «Перамога», потым доўгі час працаваў там наменнікам дырэктара.**

**Генеалагічнае дрэва Варламавых мае дваранскія карані: продкі па матчынай лініі — адэскія памешчыкі, дзед па бацькавай служыў у асабістай ахове Мікалая II.**

**Скончыўшы сярэднюю школу і адначасова — харэаграфічнае вучылішча, юнак ідзе ў армію. Пасля дэмабілізацыі ўладкоўваецца механікам на авіярамонтным заводзе, крыху пазней уваходзіць у састаў лётнага экіпажа.**

**Здавалася б, чаго яшчэ жадаць у такім узросце? Лятай... Але ў 1981 годзе — круты паварот у кар'еры: малады авіятар паступае ў інстытут культуры. Заканчвае з «чырвоным» дыпломам і атрымлівае спецыяльнасці харэографа і фалькларыста. Становіцца аспірантам знакамітага інстытута тэатральнага мастацтва ў Маскве.**

**Увосень 1991-га яшчэ адзін круты паварот: узнікае «Агенцтва Сашы Варламава».**

**Сёння ён з'яўляецца таксама галоўным рэжысёрам двух Тэатраў моды — мінскага (пры агенцтве) і берлінскага.**

**Мае сям'ю.**

**У час гутаркі перавагу аддае дэмакратычнаму «Саша». Лічыць яго ў пэўнай ступені сваім псеўданімам.**

**— ІНШЫМ разам жыццё чалавека параўноўваюць з музычным інструментам: як яго ў самым пачатку адладзіш, так потым і «грае»...**

— Думаю, мне трэба дзякаваць лёс за тое, што ён падараваў Сашу Варламаву такое(!) дзяцінства і такіх(!) бацькоў. Сям'ю нашу нельга было назваць багатай матэрыяльна: на 170—180 рублёў у месяц бацькі павінны былі гадаваць траіх дзяцей. Але прысутнічала іншая катэгорыя — духоўнае багацце. Бабуля мая, напрыклад, размаўляла на трох мовах і іграла на трох інструментах. У яе сям'і так было прынята. Спадзяюся, што пэўная частка культурнай спадчыны дасталася і мне. А разам з ёю і прага да мастацтва.

У дзяцінстве я трапіў у танцавальны гурток да цудоўнай балерыны, народнай артысткі БССР Аляксандры Мікалаевай. А ўжо пасля чацвёртага класа пачаў наведваць харэаграфічнае вучылішча пры оперным тэатры.

**— У авіяцыю вас таксама прывяла памянёная прага да мастацтва?**

— Як бы не так. Туды мяне прывяла любоў да творчасці Антуана дэ Сент-Экзюпеpы. Яго аповесці «Начны палёт», «Ваенны лётчык»... Нейкі час я быў пад моцным уражаннем ад іх.

**— Аднак выбар гэты не стаў канчатковым.**

— Даволі хутка я зразумеў, што авіяцыя сёння — гэта ўжо не тая рамантыка, якая была ў час Экзюпеpы. Дарэчы. Нават тады, калі я лятаў, то не пераставаў танцаваць. А адзін час у мяне была нават свая танцавальная група.

**— З 1982 года ў вас, студэнта другога курса інстытута культуры, пайшоў навуковы стаж. Як так атрымалася?**

— Мне была прапанавана пасада малодшага навуковага супрацоўніка навукова-даследчай лабараторыі беларускай танцавальнай творчасці. Зразумела, я згадзіўся. Тады і пачаў усур'ёз займацца фальклорам. Каля сямі гадоў мы ездзілі па беларускіх вёсках (300—350 за адзін сезон) у пошуках матэрыялу. Апытвалі мясцовых жыхароў, здымалі, запісвалі. У 1987 годзе выйшла энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі». У мяне там 70 навуковых артыкулаў.

**— І зноў жа мастацтвазнаўства, як і авіяцыя, не стала справай усяго жыцця. Прабачце, але — чаму?!**

— Усё пачалося з таго, што ў 1981 годзе я знайшоў у сваёй паштовай скрынцы запрашэнне ў мінскі Цэнтр моды на прагляд. Першы год «адхадзіў» у манекеншчыках. Плюс вучыўся, плюс працаваў у лабараторыі. Нарэшце разам з Галінай Мяшковай вырашылі стварыць Тэатр моды.

Адна з нашых дэбютных калекцый называлася «Італьянскі поўдзень». Тады ўпершыню ў Мінску мы павесілі замест шырмы поліэтыленавую плёнку, за ёю паставілі зялёныя кветкі — было вельмі прыгожа. Потым да нас прыйшла Інна Булгакава, ідэю тэатра развіла далей. У 1987 годзе мы выехалі ў Маскву на фестываль моды. Там наш спектакль «Час. Мы. Мода» заняў першае месца. Можна сказаць, што менавіта пасля гэтага я ўбачыў тую жыццёвую дарогу, па якой мне хацелася ісці.

У модзе ёсць хуткасць. Можна сказаць, блізкая да хуткасці святла. Яна мяне і прывабіла. Мода — гэта тое, чаго яшчэ ніколі не было. І жыве яна, пакуль не надакучвае. Як толькі актуальнасць знікла — яна старэе, адыходзіць і нараджаецца новая.

Па-другое, мода — люстэрка псіхалогіі чалавека. Калі чалавек апранае белую кашулю, ён як бы «прыглушае» свае эмоцыі; чорную — хаваецца за яе, як за нейкі ўмоўны бар'ер, хоча абараніць сябе; стракатую — таксама выяўляе пэўны настрой.

**— У пачатку кар'еры мадэльера нехта быў для вас «маяком»?**

— Галіна Мяшкова — мая першая настаўніца ў модзе. Спачатку я не мог зразумець, як яна так складвае ўсе гэтыя кавалачкі матэрыі, што атрымліваецца «патрасная» па прыгажосці сукенка.

Потым — Слава Зайцаў. Мы пазнаёміліся з ім у 1982 годзе і ў хуткім часе сталі сябрамі. Ён не такі, як усе. Слава абсалютна адзінокі, але не баіцца гэтай сваёй адзіноты, што пад сілу толькі моцным людзям. Зайцаў не стараецца быць модным, ён выяўляе сябе.

Мне падабаецца П'ер Кардэн. Я прысутнічаў на яго праграмах у Мінску — неверагоднае ўражанне!

**— Скажыце, а Саша Варламаў сам — модны чалавек?**

— Мусіць, было б занадта банальным адказаць нечым накшталт таго, што шавец сам без ботаў. Проста, ганяцца за модай у мяне няма ні грошай, ні часу.

**— Давайце яшчэ раз вернемся ў мінулае. У 1990 годзе вы пакідаеце мінскі Тэатр моды. Афіцыйна лічыцца — па стану здароўя. Ці так гэта было на самай справе?**

— І так, і не так. Пасля траўмы пазваночніка я ляжаў прыкаваны да ложка, калі мне пазванілі з тэатра і заявілі, што прыехала дэлегацыя з саюзных рэспублік і я павінен быць. Калі я адказаў, што не змагу, на другім канцы проваду зазначылі, што людзей незаменных няма... Я звольніўся і паехаў лячыцца да Касьяна. Мне зрабілі вельмі сур'ёзную аперацыю — выдалілі кавалачак пазваночніка. Вельмі доўга нельга было згінацца, нават есці даводзілася стоячы.

Прыкладна праз год, калі мой стан палепшыўся, мяне запрасілі праводзіць аўкцыёны ў Брэсце. Прадаваў я тыя рэчы, што канфіскоўваліся на мяжы. Так назбіраў грошай і адкрыў фірму.

У 1992 годзе з Парыжа ў Мінск прыехалі прадстаўнікі агенцтва «Ford Models». Пры іх непасрэдным удзеле быў праведзены конкурс «Супермадэль», прызнаны ў тым годзе лепшым у Еўропе.

**— Дык што, калі б не было траўмы, не было б і таго мадэльера Сашы Варламава, якога мы ведаем?**

— Складана строіць здагадкі, кім бы я стаў. Але дакладна ведаю, што чым больш цяжкасцей на шляху ў чалавека, тым больш актыўна ён пачынае працаваць. Або вучыцца працаваць. Лежачы на канапе немагчыма нечаму навучыцца.

**— А цяжкасці і наогул розныя напасці часта вас праследуюць?**

— Увесь час складваюцца нейкія крытычныя сітуацыі. Я да гэтага прывык. І калі іх няма, пачынаю думаць: «Рыхтуецца нешта грандыёзнае».

У мінулым сезоне былі дзве такія сітуацыі. Па-першае, я змяніў састаў супрацоўнікаў свайго агенцтва. Шкада, што не зрабіў гэтага раней. Проста ёсць людзі, гатовыя затаіцца, каб потым, скажам так, украсці. Некалькі разоў яны спрабавалі выступаць пад маім імем, паказвалі стрыптыз у маленькіх гарадах. Там, дзе людзі чулі, што ёсць такі Саша Варламаў, але ў твар, вядома ж, не ведалі.

Па-другое, выйшаў скандал з конкурсам «Супермадэль Беларусі-96». Так атрымліваецца, што мяне заўсёды вучаць жанчыны. Адна з іх неяк сказала мудрыя словы: «Калі спяваюць грошы, змаўкае музыка».

Калі я рыхтаваў конкурс, прыйшла Ліка Ялінская, з уласнымі спонсарамі і сваімі падыходамі. Ліка спрабавала сябе ў якасці рэжысёра. Калі я ўбачыў, што ад маіх напрацовак мала што застаецца, то выйшаў з конкурсу. Яго тэрмінова перайменавалі ў «Нацыянальную мадэль», а «Супермадэль» пройдзе пазней, прыкладна ў лютым 1997 года.

**— Наша газета пісала аб прэзентацыі гэтага конкурсу, на якой вы заявілі аб расшырэнні традыцыйных рамак і ўвядзенні новых намінацый: «маленькая мадэль» і «поўная мадэль». Гэтыя навацыі патрабуюць тлумачэнняў.**

— Конкурс — не толькі дэманстрацыя фігуры. І потым, няма на свеце чалавека без недахопаў, з аднымі толькі вартасцямі. Я не ведаю, хто прыдумаў стандарты для супермадэляў. Кожная жанчына па-свойму прыгожая. У Беларусі ёсць і маленькія, і тоненькія, і таўстушкі, якіх гэта ніколькі не псуе... Дарэчы, менавіта ў апошняй намінацыі рашэнне будзе выносіць не журы, яго прымуць гледачы. Тая мадэль, якая атрымае большасць іх галасоў, будзе ўдастоена звання «Лэдзі Элегантнасць».

**— Само сабой напрошваецца пытанне: а які ідэал жанчыны ў Сашы Варламава?**

— Жанчына, якая трымае на руках немаўля. Мадонна. Боская Маці, калі хочаце.

**— Вы верыце ў Бога?**

— Так. Кожную раніцу я малюся Богу.

**— Пагадзіцеся: творчасць пісьменніка, паэта, скульптара залежыць толькі ад іх саміх, ад меры таленавітасці. Але ў вашым выпадку вы ў многім залежыце ад іншых людзей. І тут існуюць толькі два шляхі: або цалкам падпарадкаваць іх сабе, каб забяспечыць поспех, або дазволіць ім таксама стаць творцамі, сааўтарамі. Што звычайна выбіраеце вы?**

— Ведаеце, гэта як у каханні, дзе ёсць і пачуцці, і патрабавальнасць.

**— І ўсё ж. У сваім дакладна акрэсленым свеце, свеце Сашы Варламава, вы хто больш — гаспадар, дыктатар, старэйшы па званню ці сябар, калега?**

— І адно, і другое. Вядома, я патрабавальны. Бывае і так, што зрываюся, выгаворваю сваім мадэлям. Але яны не крыўдуюць, здаецца. Я не асабіста іх хачу пакрыўдзіць. Яны разумеюць, што гэта для агульнай карысці.

**— Не сакрэт, што з сотні пачынаючых мадэляў прафесіянальную кар'еру робяць адзінкі. Большасць не становяцца каралевамі подыума. Што чакае гэтых дзяўчынак?**

— Не думаю, што нешта дрэннае. Ад нас дзяўчаты адыходзяць са шматлікімі ведамі, навыкамі, уменнямі. А прыгожая і да таго ж разумная жанчына заўсёды ведае, што ёй рабіць.

**— Нямецкі філосаф Фіхтэ не пагадзіўся б з вамі. Бо лічыў, што «няма сэнсу выхоўваць гарманічных людзей, паколькі яны загінуць у дысгарманічным і драпежным грамадстве».**

— Перш за ўсё я выхоўваю сілу. Прыгажосць — вялікая сіла. Дададзім сюды розум, цярпенне, дыпламатычнасць. Я хачу, каб мае манекеншчыцы былі моцнымі. Таму ў мяне ў паказах амаль няма павольнай музыкі, усё ў тэмпе, з напорам. Сіла — мой дэвіз.

**— А што, па-вашаму, для чалавека творчага кар'ера?**

— Гэта калі ёсць сілы і магчымасць працаваць. А калі няма сіл, калі адчуваеш, што ты «выдыхнуўся», — трэба пайсці. Тады кар'ера завершана.

**— Дазвольце яшчэ адну цытату, яна да месца. Бернард Шоу сказаў: «Чалавек, для якога работа — усё, інвалід». Што для вас існуе акрамя работы?**

— Калі па класіку, то я інвалід. Які любімы занятак акрамя работы? Не памятаю, даўно не адпачываў.

**— Пасля сарака амаль кожны чалавек задумваецца над уласным прызначэннем калі не ў жыцці, то ў сваёй справе. Якую мэту ставіць перад сабой Саша Варламаў?**

— Я хацеў бы зрабіць так, каб у беларускім мадэлінгу з'явіліся аўтары, з якімі будуць лічыцца. Вы можаце сабе ўявіць, каб не лічыліся з Іў Сен Ларанам або Кардэнам? Кожны буйны мадэльер на Захадзе мае свой Дом моды, у якім і адбываецца яго самавыяўленне. Гэта толькі ў нас у рэспубліцы мастакі аб'ядналіся ў Цэнтр.

Не будзе моды на Беларусі, пакуль будзе Цэнтр моды. Вось які парадокс. А знікне ён — знікне «страха», якая нішчыць імёны. Адразу з'явяцца Дамы моды Вольгі Ламака, Надзеі Прышчэп, Жаны Баравец... Калі няма асоб, імён, то няма і краіны. Беларусь — гэта Вольга Корбут, гэта Елізар'еў, гэта дырыжор Анісімаў...

Таму мая новая праграма, якую я плаѓную паказаць у бліжэйшы час, называецца «Бенефіс эгаістаў». Эгаіст — чалавек, што вырваўся з кола шэрасці, штодзённасці. «Эга» — гэта «я». Кожны чалавек павінен сказаць «Я». Толькі тады ён зможа стварыць.

**— На прэзентацыі «Супермадэлі Беларусі» былі выкананы тры песні на вашы словы. Вы яшчэ і паэт? Паэзія — адна са ступенек вашай духоўнай кар'еры?**

— Паэт — гэта Пушкін, Цвятаева. А я не паэт, проста аўтар слоў. Хоць, прызнаюся, мне спадабаўся такі занятак, я зразумеў, як гэта робіцца. Але песні не былі напісаны выпадкова. Адна з іх — «Манекен-манекен», задумана як прафесіянальны гімн. Калі ў медыкаў ёсць свой гімн — «Людзі ў белых халатах», то чаму яго не можа быць у манекеншчыкаў?

**— Я думаю, нашы чытачкі не даруюць, калі вы не скажаце колькі слоў пра накірункі сусветнай моды сёлета.**

— У модзе сёння кіч: стылістыка адзення крыклівая, як і каляровая гама матэрыялаў, з якіх яно шыецца. Кожны мадэльер або нават кравец у вясковай майстэрні выяўляе сябе як мастак. А таму можна параіць апранацца па свайму густу, не губляючы галоўнага — меры.

**Распытваў Цімур КУДЗЕЯР.**

---

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...наняць рэпетытара для паступлення ў ВНУ

АДШУМЕЛІ звонкімі галасамі і смехам, прайшлі па краіне апошняй радаснай падзеяй у школьным жыцці выпускныя балі па краіне і... выпускнікі зноў узяліся за падручнікі, даведнікі. Прынамсі тыя, хто сёлета збіраецца паступаць у розныя навучальныя ўстановы. Зразумела, некаму вучоба заўсёды давалася лягчэй за іншых, але хочацца яшчэ раз праверыць сябе, хтосьці проста з-за ўласнай нерашучасці сумняваецца ў ведах, але ў тым і другім выпадку ўсе нязменна звяртаюцца да паслуг рэпетытараў. О, яны шчыруюць на гэтай ніве напярэдадні ўступных экзаменаў у сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы! Дзе толькі няма ў гэты час аб'яў з прапановай паслуг абітурыентам: у газетах, на слупах, будынках. Колькі ж каштуе сёння такая паслуга, як рэпетытарства?

Высветлілася, што ўсё залежыць ад папярэдняй падрыхтоўкі патэнцыяльнага студэнта — прагульваў ён урокі ці сядзеў і ў школе і дома за падручнікамі (хаця працягласць курса пераважна вызначае сам рэпетытар). Заняткі з абітурыентам можа праводзіць і аспірант, і просты выкладчык, і нават прафесар. У плане кошту за паслугі істотнай розніцы ў залежнасці ад кваліфікацыі не прасочваецца — аспірант можа запрасіць нават больш, чым прафесар з вялікім стажам работы (што, зразумела, не гаворыць аб якасці работы). Заняткі практычна заўсёды індывідуальныя і на кватэры ў рэпетытара. Зразумела, нельга даць поўны спектр кошту паслуг, але прыкладныя цэны такія: матэматыка — курс падрыхтоўкі разлічаны на два тыдні, занятак у адну акадэмічную гадзіну абыдзецца ў тры долары; біялогія — курс з 22—25 урокаў з разліку дзве акадэмічныя гадзіны па 4 долары; хімія — курс з 25 тэм, заняткі па тры акадэмічныя гадзіны, кожныя 45 хвілін ацэньваюцца ў 20 тысяч рублёў; хімія — 32 урокі з разліку 3 долары (для паступлення ў ВНУ) і 2 долары (для тэхнікума) за кожныя 45 хвілін. Зрэшты, могуць быць і варыянты, для чаго трэба сустракацца з рэпетытарамі. Але ўсе яны ў адзін голас сцвярджаюць: разлічваць абітурыенту найперш трэба на ўласныя веды. Стопрацэнтнага паступлення ніхто не гарантуе. Будучаму студэнту могуць, акрамя дапамогі з паўтарэннем школьнай праграмы, падказаць, як паводзіць сябе на экзамене, якіх пытанняў чакаць. Таму вырашаць — патрэбен рэпетытар ці не — прыватная справа абітурыента і, натуральна, яго бацькоў, бо справа гэтая, як бачна, каштуе немалых грошай.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# АДЗІН У ПОЛІ НЕ ВОІН

**А**дчайная спроба ў адзіночку процістаяць націску капіталу скончылася няўдачай: прадстаўнікі пракапіталістычных партый — Генадзь Карпенка, Анатоль Лябедзька, Мечаслаў Грыб — выкарыстоўваючы ўсе магчымасці рэгламенту, не далі давесці дэпутатам мае сумненні, і Вярхоўны Савет прагаласаваў за Закон «Аб трансплантацыі органаў і тканак чалавека». Прыняты заканадаўчы акт, які выкліча ўсплёск злачынстваў, накіраваных супраць жыцця чалавека.

Ужо толькі тая акалічнасць, што ў бюджэт на 1996 год фінансаванне гэтага закона не закладзена, а грошы ж патрабуюцца немалыя, народзіць карупцыю. Бо кошт перасадкі ныркі складае 600 млн. рублёў, сэрца — 1,5 млрд., печані — 5 млрд., касцявога мозга — ад 600 млн. да 1,5 млрд. рублёў. Але грошай, выдзеленых у бюджэце на ахову здароўя працоўных, не хапае нават на своечасовую выплату заработнай платы медыцынскім работнікам. Хто і з якіх сродкаў будзе аплачваць аперацыі па перасадцы органаў? Названыя цэны — сусветныя, у Беларусі ж, паводле даных Міністэрства аховы здароўя, яны ў тры разы меншыя.

Дык гэта — сёння. З прыняццем закона, што азначае ўступленне рэспублікі ў агульны рынак па трансплантацыі, цэны не могуць быць ніжэйшыя. Можа быць і так: беларускі тавар па больш нізкіх цэнах будзе карыстацца неабмежаваным попытам. А попыт, як вядома, параджае прапанаванне. Аднак тавар жа асаблівы: чалавечыя органы, прычым вышэйшай якасці.

Высокая якасць мае на ўвазе перш за ўсё сістэму сервіснага забеспячэння. І яна ў рэспубліцы створана па вышэйшых еўрапейскіх стандартах. У рамках вывучэння пытанняў трансплантацыі наведаў адзін з моргаў. На свае вочы ўбачыў аперацыйную, падрыхтаваную для забору біятрансплантантаў.

Абсалютная стэрыльнасць, што забяспечваецца дзесяткам бактэрыцыдных лямпаў, стэрыльны інструментарый, кансерванты і стэрыльныя мяшкі для герметычнай упакоўкі трансплантантаў, што стаяць у шафе напагатове, кантэйнеры для транспарціроўкі і маразільную камеру для захоўвання, якая забяспечвае тэмпературу мінус 80 градусаў па Цэльсію.

Пасля гэтага мне сталі зразумелыя прычыны скандалу, што ўзняўся ў свой час вакол закупкі Міністэрствам аховы здароўя за мяжой вялікай партыі гэтых зусім не патрэбных практычнай медыцыне стэрыльных мяшкоў: рыхтавалася сервісная сістэма забеспячэння трансплантацыі.

А для работы судмедэкспертаў па анатаміраванню трупаў прызначана іншае памяшканне, без стэрыльнасці. Можна толькі здагадвацца, колькі ўсяго ўкладзена бюджэтных сродкаў, калі такая гатоўнасць да выканання яшчэ не прынятага закона была па ўсёй рэспубліцы. І гэта пры тым, што медыцына Беларусі на ладан дыхае.

Такая капіталістычная рэальнасць: грошы ўкладваюцца толькі туды, дзе можна атрымаць прыбытак. Зразумела, што на лячэнні беларускіх працоўных не разжывешся, затое экспарт іх органаў, тканак і касцявога мозгу для інвестараў вельмі нават прывабны. А паколькі бюджэтныя грошы на трансплантацыю афіцыйна не накіроўваліся, мяркую, што тут не абышлося без грошай Захаду і мафіі, якія ў сімпатыях да рабочых і сялян не заўважаны.

Паважаныя выбаршчыкі, інфармую вас, што Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь разам з Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй практычна гатовы да рэалізацыі закона аб трансплантацыі органаў і тканак беларускіх працоўных. Створаны банк касцявога мозгу патэнцыяльных донараў, які складаецца на сённяшні дзень з 6000 чалавек.

**ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ: кошт праведзеных аналізаў на аднаго чалавека складае 650 тысяч рублёў (сярэдні і малодшы медперсанал менш, ды і то нерэгулярна, атрымлівае за месяц напружанай працы), цана ўсяго банка даных — 4 млрд. рублёў.**

Фінансавыя магчымасці Беларусі і ФРГ непараўнальныя. Свой банк на 6000 аналізаў рэспубліка стварала пяць гадоў, у той час як спецыялісты з Германіі на банк даных, які ўключае больш за сто тысяч чалавек і складзены па выніках даследаванняў і 50 тысяч беларускіх дзяцей — патэнцыяльных донараў, затрацілі часу куды менш, значыцца эфектыўнасць іх работы ў 100 разоў вышэйшая.

На вывучэнне рынку сыравіны, г. зн. рынку органаў, тканак, касцявога мозгу чалавека, немцы грошай не шкадуюць: ствараюць у Беларусі сетку цэнтраў па трансплантацыі і дыягностыцы, у першую чаргу дзіцячай, але паколькі сумесныя праекты маюць на ўвазе долевы ўдзел, а фінансы нашы «спяваюць рамансы», рэспубліка расплачваецца зямлёй пад нямецкімі пабудовамі ў Беларусі і пасылкай сваіх маленькіх грамадзян у ФРГ, вынікі абследавання якіх пашыраюць нямецкі банк органаў і касцявога мозгу чалавека (называецца гэта — аздараўленне дзяцей). На сённяшні дзень нямецкія трансплантолагі ў стане па свайму камп'ютэру падабраць на Беларусі донара для большасці сваіх рэцыпіентаў.

У трансплантологіі сёння галоўнае не перасадка органаў, якая толькі крыху падаўжае жыццё, а перасадка касцявога мозгу. Анкагематалагічныя захворванні, а колькасць іх на планеце павялічваецца, вылечваюцца выключна перасадкай касцявога мозгу. Усе астатнія спосабы толькі часова прыпыняюць хваробу. Але менавіта гэтае пытанне практычна выкінута з Закона «Аб трансплантацыі органаў і тканак чалавека», гэтак жа як было выключана Вярхоўным Саветам 12-га склікання — з Закона «Аб донарстве крыві і яе кампанентаў». А ў працэсе забору касцявога мозгу і яго перадачы рэцыпіенту з трансплантацыяй органаў і тканак агульныя толькі крытэрыі сумяшчальнасці, у той час як касцявы мозг і кроў — гэта адзіная сістэма арганізма, працэдуры іх забору і ўвядзення рэцыпіенту падобныя.

**ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ: тыя грамадзяне ФРГ, якія ўключаны ў банк даных, далі сваю згоду стаць донарамі, ведаючы, што, здаўшы кроў ці касцявы мозг, яны набываюць даволі адчувальныя льготы. Аднак дарослыя беларусы і беларускія дзеці, уключаныя ў спісы патэнцыяльных донараў Захаду, аб гэтым нават не падазраюць. Вельмі магчыма, у сувязі з прыняццем Закона аб трансплантацыі, хутка даведаюцца.**

Спачатку запросяць, ветліва і культурна прапануюць стаць бясплатным донарам касцявога мозгу. Паколькі адмова прадвызначана, таму што працэдура гэта, у адрозненне ад донарства крыві, — балючая і доўгая, а якіх-небудзь істотных ільгот і прывілей донарам касцявога мозгу прыняты Вярхоўным Саветам 13-га склікання закон не прадугледжвае, з'явяцца «хлопчыкі ў скуранках», якія паўтораць прапанову крыху ў іншай форме...

**ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ: працэнт выжывальнасці хворых з анкалагічным захворваннем крыві, адзінае выратаванне для якіх — перасадка касцявога мозгу, складае ў Беларусі 65, а ў ФРГ — амаль 90. Працэнты гэтыя былі аднолькавыя, але, калі сотні беларускіх дзяцей павезлі ў Германію на аздараўленне, паказчыкі ў немцаў рэзка палепшыліся.**

Апаненты запярэчаць, што падзеі гэтыя не ўзаемазвязаныя, а супадзенне — выпадковае. Толькі ж апаратура, інструментарый, растворы і іншае — з ФРГ, методыку медыкі нашы вывучалі таксама там, а вынікі намнога адрозніваюцца. Адрозненне ў іншым: для падбору донара касцявога мозгу неабходны вялікі банк даных, паколькі пры перасадцы касцявога мозгу патрабаванні да крытэрыяў сумяшчальнасці вышэйшыя, чым пры трансплантацыі органаў і тканак.

...Забор касцявога мозгу робіцца пад агульным наркозам, сляды ад праколу іголкай загойваюцца даволі хутка, ды і хто будзе разбірацца, для чаго дзіцяці рабілі ўколы: цыкл уввядзення прэпарата ці забор касцявога мозгу. Прычым, чым меншае дзіця, тым больш эфектыўныя клеткі яго касцявога мозгу: медыкам вядомы выпадкі, калі касцявы мозг бралі ў немаўлят.

Выклікае пытанні і вялікая патрэбнасць ва ўсынаўленні разумова адсталых і хворых дзяцей з Беларусі (кроў і касцявы мозг у якіх у норме), што з'явілася раптам у «развітых» капіталістычных краінах. Зрабіць донарамі дзяцей з дзіцячага дома нельга ні ў нас, ні на Захадзе, а дазволіць узяць касцявы мозг у прыёмнага дзіцяці — можна. Ільготы, якія такая сям'я атрымае пасля гэтага, з лішкам пакрыюць усе расходы на ўсыноўленае дзіця. Абсурд? Фантазія? Няхай так, аднак фактычны лёс большасці дзяцей, вывезеных з рэспублікі на Захад для ўсынаўлення, невядомы. Медыцынскай справаздачы аб праведзеных у ФРГ аздараўленчых і лячэбных працэдурах на кожнага з соцень накіраваных туды дзяцей таксама няма.

Ні на адну перасадку ныркі, праведзенай у Рэспубліцы Беларусь, згоды донара ці яго сваякоў няма, таму што дзеючымі інструкцыямі Міністэрства аховы здароўя працэдура атрымання згоды сваякоў на забор органаў у паміраючых не прадугледжана. Затое ў інструкцыі ўрачу-каардынатару падрабязна распісана, каму і як званіць у г. Мюнхен, як сустракаць і праводзіць брыгаду трансплантолагаў з ФРГ, як арганізоўваць спрошчаны мытны кантроль і пропуск спецмашыны да самалёта...

Вярхоўны Савет 13-га склікання беззаконнасць гэтую ўзаконіў, а прапанову правесці агульнанацыянальны рэферэндум па пытанню: «Ці згодна беларускае грамадства з тым, каб у чалавека пасля смерці, без ведама яго самога ці сваякоў, забіраліся органы?» — адхіліў.

**Валерый ШЧУКІН,**
**сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю.**

# «ВА ЎСІХ ЦЫВІЛІЗАВАНЫХ КРАІНАХ ІСНУЮЦЬ ЗАКОНЫ АБ ТРАНСПЛАНТАЦЫІ ОРГАНАЎ І ТКАНАК ЧАЛАВЕКА»

***Прыняцце закона «Аб трансплантацыі органаў і тканак чалавека» па просьбе карэспандэнта «Звязды» каменціруе старшыня парламенцкай Камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту РБ Уладзімір БЕЛЯКОЎ.***

**— Спачатку — аб неабходнасці прыняцця такога закона, Уладзімір Леанідавіч.**

— Сёння трансплантацыя органаў — адзіная магчымасць кардынальна дапамагчы чалавеку ў крытычнай для яго, крайняй сітуацыі. Адзіны шлях да выратавання. Усё астатняе — або неэфектыўнае, або часовае. Скажам, штучная нырка можа прадоўжыць пацыенту жыццё толькі на тры—пяць гадоў. Пры гэтым людзі прывязаны ўвесь час да бальнічнага ложка. І таму перасадка ныркі — безальтэрнатыўны шлях. У нас у рэспубліцы ёсць прыклады, калі людзі з перасаджанай ныркай жывуць больш за 15 гадоў. Жанчына з новай ныркай нарадзіла дзіця. І ў грамадстве ведаюць пра гэтыя прыклады. Я магу вам паказаць многія пісьмы, у якіх нас прасілі паспяшацца з прыняццем дакумента, бо ад яго залежаць жыцці.

Ва ўсіх развітых, цывілізаваных краінах гэтыя законы існуюць, і менавіта яны рэгламентуюць аказанне такой вось медыцынскай дапамогі.

У друку час ад часу з'яўляюцца публікацыі пра тое, што ў людзей быццам бы крадуць тыя ці іншыя органы. Як урач, спецыяліст, я не ведаю, як іх можна красці. Тым не менш, прыняцце закона перакрые нейкія праломы, калі яны былі, і выб'е глебу з-пад такіх размоў.

Грунтуючыся на новым законе, мы ўнеслі змены і дапаўненні ў Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы. І калі нехта будзе парушаць урачэбную этыку, чалавечую мараль, напрыклад прымусам, то ён панясе адказнасць. Можна атрымаць да 8 гадоў пазбаўлення волі. Раней гэтага не было.

Прадугледжана, што такія звышскладаныя аперацыі будуць выконвацца толькі ў дзяржаўных установах, якія маюць дазвол Міністэрства аховы здароўя, адпаведнага ўзроўню спецыялістаў і патрэбнае абсталяванне, а не ў камерцыйных клініках. У нас ужо ёсць адпаведныя цэнтры: пры 4-й бальніцы — аддзяленне па перасадцы ныркі, і пры 9-й — касцявога мозгу. Гэта значыць, дакладна ўстаноўлена, хто мае права займацца перасадкай. Камерцыйныя клінікі не атрымаюць дазволу і пазней, нават пасля пераходу на страхавую медыцыну. Толькі дзяржава будзе займацца гэтай праблемай. І колькасць спецыялізаваных дзяржаўных цэнтраў павінна расці. Бо патрэбнасць у іх вялікая: у год па медыцынскіх паказчыках трэба было б рабіць да 500 аперацый.

У бліжэйшы час цэнтр па перасадцы нырак павінен адкрыцца ў Гомелі.

Мы доўга працавалі над дакументам, вывучалі адпаведныя законы іншых еўрапейскіх дзяржаў, Расіі. Грунтаваліся на сусветным вопыце. У выніку наш атрымаўся больш строгім, яго нормы жорстка рэгламентаваны. Гэта зроблена ў інтарэсах хворых, для выключэння нейкіх парушэнняў. Пастараліся прадугледзець усё, да дробязей, хоць тут якраз дробязей і не бывае.

У распрацоўцы прымалі ўдзел надзвычай аўтарытэтныя практыкі з багатым вопытам — акадэмік Мікалай Саўчанка, загадчык аддзялення Рэспубліканскага цэнтра па трансплантацыі ныркі Генадзь Казлоў, іншыя высокакласныя спецыялісты — медыкі, юрысты.

**— На якія (на чые) сродкі будуць аплачвацца аперацыі?**

— На сродкі з бюджэту. Бо гэта адна з формаў лячэння. Каштуюць яны надзвычай дарага, і тыя 30—35 аперацый у год па перасадцы ныркі, якія робяцца ў рэспубліцы сёння, абыходзяцца ў добрую капейку. Але жыццё чалавечае даражэй.

Ёсць выпадкі, калі прадпрыемствы, працоўныя калектывы аказваюць дапамогу сваім работнікам. Гэта можна толькі вітаць.

**— Ці будуць нашы цэнтры нейкім чынам арыентаваны на патрэбы замежных клінік? Іншымі словамі, ці будзе Беларусь пастаўляць трансплантанты за мяжу?**

— Не. Мы не ўваходзім у сістэму «Еўратрансплант» (некалькі еўрапейскіх краін у яе рамках на бязвыплатнай аснове дапамагаюць адна адной. Там існуе адзіны банк даных, пэўная заканадаўчая база і г. д.). Мы пакуль што не гатовы, каб далучыцца да такой супольнасці. У нас свой, уласны банк даных, свае спецыялісты і ствараецца свая заканадаўчая база.

**— А тое, пра што піша дэпутат Шчукін, маўляў, падрыхтаваны маразільныя камеры для захоўвання і стэрыльныя мяшкі ў вялікай колькасці для перавозкі трансплантантаў за мяжу... Як гэта ацаніць?**

— Як думкі, якія не маюць пад сабой асновы. У нас у трэцяй бальніцы, на базе Інстытута пералівання крыві, ёсць аддзяленні па забору органаў і тканак ад мёртвых. Яны заключылі дамову з інстытутам з Германіі. Нічога не атрымалася. Немцы прынялі толькі дзве косткі і ўзамен паставілі апарат для перасадкі скуры ў абпечаных хворых за 5 тысяч дойчмарак. Астатняе не пайшло. Мы не гатовы да такога супрацоўніцтва.

**— Цяпер аб самым, бадай, складаным. Закон прыняты, практыка перасадкі органаў атрымала новы штуршок. Але як гэта будзе на практыцы, калі ўрачы пачнуць фарміраваць свае запасы трансплантантаў? Зразумела, што забіраць органы яны будуць ад людзей, якія ў прынцыпе здаровыя, толькі трапілі ў пэўную сітуацыю, напрыклад, аварыю і ўжо пераступілі рысу паміж жыццём і смерцю, але яшчэ захоўваюць прыметы жыцця. Хто возьмецца вызначыць, што чалавека трэба не ратаваць і не везці ў рэанімацыю, а ў спецыялізаванае аддзяленне для забору трансплантантаў?**

— Пытанне правільнае, толькі крыху не так пастаўлена. Давайце разбяромся. Патэнцыяльнымі донарамі, сапраўды, часцей за ўсё з'яўляюцца людзі, якія трапілі ў аварыю. Але яны якраз і паступаюць у рэанімацыю. І там робіцца ўсё, каб чалавека вылечыць. Але бываюць выпадкі, калі яму немагчыма дапамагчы, хоць сардэчная дзейнасць пакуль што ў нейкай ступені падтрымліваецца. І калі гэта становіцца зразумела, толькі тады можа разглядацца пытанне аб заборы органаў. Праводзіцца энцэфалаграфія, якая паказвае, што мозг чалавека ўжо загінуў. Значыць, надзеі ніякай. І кансіліум з трох-чатырох дактароў прымае рашэнне аб заборы органа. Мы ў законе запісалі: кансіліум, які вызначае, што чалавеку ўжо дапамагчы нельга, павінен складацца не менш чым з пяці ўрачоў.

**— Але ж сэрца яшчэ б'ецца.**

— Яго падтрымліваюць штучна. Толькі так доўга не пражывеш.

**— Бываюць жа выпадкі, калі на хворым паставілі крыж, а ён узяў ды выкараскаўся.**

— Крытэрыі існуюць дакладныя, каб вызначыць, ці можна пацыента яшчэ выратаваць. І калі застаецца хоць бы адзін шанц, ніхто не пойдзе на парушэнне маралі, а цяпер і закона. Да таго ж у дактароў не будзе, прабачце за такі змрочны жарт, «плана» па трансплантантах і ніякай асабістай зацікаўленасці. Мы пастараліся, каб грошы тут былі ні пры чым. Усё гэта будзе рабіцца на бязвыплатнай аснове — забор трансплантантаў, аперацыі па замене і г. д. Дарэчы, на Захадзе купля-продаж чалавечых органаў забаронены.

**— Тая саюзная інструкцыя, якая дзейнічала раней, а зараз прыняты закон прадугледжваюць атрыманне згоды ад родных ці блізкіх донара?**

— Абавязковая наяўнасць пісьмовай згоды родных.

**— Сям'і донара прадугледжана нейкая кампенсацыя?**

— Не. Мы выключылі матэрыяльныя моманты наогул.

Адзінае, што калі чалавек, ратуючы іншага, свядома і добраахвотна дазволіў узяць у сябе касцявы мозг, нырку ці нешта іншае і ў выніку ў яго асабіста пагоршыўся стан здароўя, то тут існуе сістэма кампенсацыі. Наступіўшае захворванне разглядаецца як вытворчае, і прадугледжаны льготы на атрыманне лекаў, курортна-санаторнае лячэнне.

## ЗМЕНА ПОЛУ -- ТРАГЕДЫЯ І РАДАСЦЬ

**Як стала вядома «Звяздзе», Кабінету Міністраў накіраваны на разгляд праект пастановы аб стварэнні міжведамаснай камісіі, якая б разглядала пытанні, звязаныя са зменай полу людзьмі, якія прызнаны транссексуаламі.**

Як вядома, транссексуалізм -- устойлівае ўсведамленне сваёй прыналежнасці да процілеглага полу. Іншымі словамі, гэта калі чалавек мае, напрыклад, жаночую «абалонку»-- цела, а адчувае сябе мужчынам, ці наадварот. Транссексуалы ад гэтага вельмі пакутуюць і, каб прывесці да еднасці душу і цела, патрэбна хірургічнае ўмяшанне. Але зрабіць яго можна толькі тады, калі дадзены дазвол спецыялістаў-медыкаў (яму папярэднічаюць доўгатэрміновае абследаванне і назіранні) і падрыхтаваны новыя дакументы для гэтага чалавека. Але цяжкасць да нядаўняга часу якраз і была ў іх пераафармленні: каб здабыць шукаемае тым, хто вырашыў змяніць пол, даводзілася шмат пабегаць (часта безвынікова -- з-за адсутнасці каардынацыі паміж рознымі ведамствамі) за рознымі даведкамі. Людзі чакалі аперацыі гадамі і нават дзесяцігоддзямі. Як паведаміў карэспандэнту газеты кіраўнік мінскага гарадскога сексалагічнага цэнтра Дзмітрый Капусцін, у Беларусі такіх гаротнікаў недзе 15--18 чалавек. Усяго ж абследаванне з мэтай змены полу на сённяшні дзень прайшлі 34 транссексуалы. Менавіта ім і прызвана дапамагчы камісія, у якую павінны ўвайсці прадстаўнікі міністэрстваў юстыцыі, унутраных спраў, абароны. Па яе заключэнню чалавеку будуць змяняць дакументы, пасля чаго транссексуалам будзе рабіцца неабходная аперацыя. Таму зразумелая неабходнасць атрымання дазволу ад Кабінета Міністраў на стварэнне і работу камісіі. Па словах Д. Капусціна, тэарэтычна ў Беларусі налічваецца ад 200 да 500 чалавек, якім патрэбна змена полу.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У БЕЛАРУСІ СТАНЕ БОЛЬШ МУЗЕЯЎ?

Паводле даных Рэспубліканскага цэнтра дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсій, сёння на Беларусі налічваецца 983 школьныя музеі. 47 з іх называюцца народнымі. Кожны трэці музей прысвечаны подзвігам воінаў, партызан і падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Для параўнання: у 1990 годзе колькасць школьных музеяў у нашай рэспубліцы дасягала 1274. Працэс іх скарачэння быў прыпынены толькі перад 1993 годам. Сёння зноў пачаўся рост колькасці музеяў, бо іх існаванне напрамую звязана з патрыятычным выхаваннем моладзі.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

# ТАСЬЧЫНА МАРА І ЗОЙЧЫНЫ СЛЁЗЫ,

## або Колькі слоў у абарону сучасных падлеткаў

*Тралейбусны прыпынак на праспекце сталіцы. На лаўцы, чакаючы патрэбнага нумара, сумуе пажылая жанчына з напакаванымі сумкамі. Раптам, нібы віхар, міма яе праносіцца на ролікавых каньках хударлявая дзяўчынка, амаль падлетак. Нейкім неймаверным чынам імгненна спыніўшыся, яна таксама прысаджваецца на лаўку. На выгляд ёй гадоў шаснаццаць, не больш, доўгія валасы вісяць свабоднымі пасмамі, на твары ніякай касметыкі, за спінай — нейкі нязграбны скураны рукзачок. У роце — гумка, выраз твару — раўнадушна-незалежны... Бабка з сумкамі з неўразумела-пагардлівай грымасай разглядвае сваю суседку, тая, лянiва жуючы гумку, нічога не заўважае (ці, можа, проста робіць выгляд?). Тралейбус не падыходзіць. Скончыўшы крытычны агляд, бабуля падсоўваецца да дзяўчыны бліжэй і пачынае «чытаць мараль». Усё, аказваецца, ёй не падабаецца: і «ролікі» на нагах, і рукзачок за спінай, і непрыбраныя валасы. Дзяўчына раўнадушна (ці, можа, проста робіць выгляд?) і моўчкі рэагуе на ўсе заўвагі, зрэдку санліва пазірае ў той бок, адкуль павінен з'явіцца жаданы тралейбус... А бабка ўжо амаль крычыць, звяртаючыся да людзей на прыпынку: «Вы толькі паглядзіце на гэту нахабніцу! Яна ж нават увагі не звяртае!» Дзяўчына павольна падымаецца з лаўкі, папраўляе рукзачок, выплёўвае пад ногі гумку, спакойна гаворыць: «Дастала ты мяне, бабка» — і павольна ад'язджае «сваім ходам», так і не дачакаўшыся грамадскага транспарту. Затое старая ўжо не сумуе на лаўцы каля сваіх сумак, а абурана ўзмахвае рукамі і на павышаных тонах паведамляе ўсім сведкам і выпадковым прахожым, якая нявыхаваная, пустая, разбэшчаная ў нас моладзь, і што яна проста жахаецца, калі падумае, што праз колькі гадоў гэта моладзь будзе кіраваць краінай...*

Прызнаюся: мяне палохаюць тыя, каму сёння 15—17 гадоў. Чыста знешне. Туфлі, абцасы якіх, здаецца, важаць некалькі кілаграмаў, недарэчныя, нібы знятыя з лялек, кароценькія сукенкі ці доўгія шырачэзныя балахоны, кепкі, надзетыя на галаву нават не задам наперад, а неяк бокам, кольцы ў носе... Ніяк не магу да іх прывыкнуць, хоць бачу на вуліцах горада ўсё часцей, палохаюся і... зайздрошчу. Зайздрошчу, што яны вось так незалежна і ўпэўнена могуць грукаць сваімі абцасамі па праспекце і адчуваць сябе гаспадарамі жыцця, няхай сабе гэта жыццё заключаецца пакуль у лаўцы ў скверы, на якую можна — з нагамі, у бутэльцы піва ў руцэ, ад некалькіх глыткоў якога становіцца лёгка і весела, у натоўпе гэткіх самых маладых і ўпэўненых... Яшчэ гадоў сем таму мы, тыя, каму было па 16 тады, маглі толькі марыць пра такую незалежнасць і свабоду ў модзе і паводзінах. А калі хтонебудзь асмельваўся вось так — насуперак традыцыям і агульнапрынятым прынцыпам, гэта лічылася ледзь не гераізмам... Таму я, падлетак 80-х, зайздрошчу ім, падлеткам 90-х. Зайздрошчу і... крыху баюся. Іх і ўсё часцей — за іх.

Сцэна, апісаная ў пачатку, мяне моцна ўразіла. Чаму? — спытаеце. Тыповая сцэна. Не новая. «Бацькі і Дзеці» — вечны сюжэт... Усё так, калі б не нянавісць, якая была ў вачах і ў голасе той бабкі. Не, не проста непрыманне, а менавіта злосць і нянавісць. Іх нярэдка можна ўбачыць у вачах выпадковага прахожага ў гадах, які праводзіць позіркам нязграбнага юнака на «роліках» ці дзяўчынку з недарэчнымі коскамі зеленаватага колеру.

Нават калі Бацькі аспрэчвалі новыя ідэі Дзяцей, яны ведалі, што пройдуць гады і Дзеці працягнуць іх, Бацькоў, справу, а іх новыя ідэі толькі дапамогуць ім. Цяпер крыху інакш. Бацькі не вераць, што Дзеці змогуць штосьці-небудзь. Бацькі нават не спрачаюцца, яны ўпэўнены, проста ўпэўнены, што Дзеці — «страчанае пакаленне», з якога не будзе ніякага толку. Бацькі зусім забыліся, яны не разумеюць таго, што Дзеці, нават незалежныя, нахабныя, заўсёды застаюцца дзецьмі. Нехта запярэчыць, нехта скажа: «А дзе доказы?» Доказы? Калі ласка. Я раскажу пра дзвюх дзяўчынак, тыповых прадстаўніц «страчанага пакалення». Адна жыве ў вёсцы, другая ў горадзе. Зрэшты, розніца на сённяшні дзень нязначная...

***

Тасьцы 15 гадоў. Яна сёлета скончыла дзевяць класаў. Жыве ў вялікай вёсцы з бацькамі і малодшай сястрой. Носіць, насуперак вясковай «модзе», кароценькія шорты. Валасы заплятае ў тонкія коскі, нанізваючы на іх каляровыя пацеркі. Таська марыць пра туфлі «на платформе». Але гэта пакуль мара. Днём Таська доіць карову, даглядае гусей, сушыць сена. Калі выпадае свабодная хвілінка — гойсае на веласіпедзе, узнімаючы пыл і разганяючы па вуліцы курэй. Вечарам, пасварыўшыся з бацькам, насуперак яго забароне, ідзе на вуліцу, дзе пад старымі ліпамі збіраюцца яе равеснікі. Па пятніцах і суботах Таська бегае на дыскатэку. Яна лічыць, што няма нічога лепшага, чым мігценне каляровых ліхтароў у цёмнай зале клуба і танцы з сябрамі пад рытмічную музыку... Суседская бабка, калі Таська праносіцца па вуліцы на веласіпедзе, злосна плюецца...

Таська скончыла 9 класаў на «пяцёркі». А яшчэ — яна вельмі любіць чытаць. Асабліва раманы Дзюма. Захапіўшыся гісторыяй жыцця і кахання французскіх манархаў і магнатаў, яна можа праседзець за кніжкай цэлы дзень, забыўшыся выгнаць карову, і за гэта атрымаць прачуханку ад маці...

Таська вельмі любіць усё жывое. Калі кот з'еў яе папугая, Таська плакала горкімі слязьмі ўвесь дзень, хаця ад бацькавых грубых слоў ці ад папругі яна перастала плакаць ужо два гады таму...

У Таські, акрамя мары пра туфлі «на платформе», ёсць яшчэ адна, больш сур'ёзная. Таська хоча вучыцца на юрыста. Яна хоча паступаць сёлета ў тэхнікум. Яна хоча як мага хутчэй стаць самастойнай, выйсці з-пад бацькоўскай апекі. Яна не баіцца вялікага горада, яна смелая і ўпэўненая — яна ж са «страчанага пакалення». Але дома сябры, бацькі... Таська ў свае 15 добра ведае, што пасля 11 класаў на юрыдычны факультэт паступіць практычна немагчыма. Таму яна пойдзе да сваёй мары іншым шляхам, не шкадуючы аб тым, што пакідае, калі ёй удасца пераадолець катэгарычнае «не», якое сказаў бацька. Таська хоча быць абавязкова адвакатам. Абараняць людзей. Нават злачынцаў.

***

Зойка жыве ў сталіцы. Ёй 16. У яе ёсць туфлі «на платформе». Вечарам, нацягнуўшы доўгі вязаны світэр, Зойка ідзе ў сквер, да сяброў. Маці не забараняе ёй. Яна даўно махнула на Зойку рукой. Усе спробы пагаварыць заканчваюцца цяпер аднолькава: Зойка надзявае навушнікі і ўключае плэер, матаючы галавой і прытупваючы ў такт музыцы...

Але Зойка любіць маці. Бывае, калі тая глядзіць тэлевізар, седзячы на канапе, дзяўчынка ціха садзіцца побач і кладзе галаву ёй на плячо. Маці пачынае гладзіць яе па валасах. А Зойка па-кашэчы задаволена прыжмурвае вочы і ўяўляе сябе маленькай-маленькай. А маці, працягваючы пагладжваць пафарбаваныя Зойчыны валасы, пачынае гаварыць пра яе няправільныя паводзіны. Зойка ўскопліваецца, ідзе ў свой пакой, стукнуўшы дзвярыма, уключае музыку...

У Зойкі ёсць кот з банальнай мянушкай — Васька. Васька ведае пра жыццё гаспадыні больш, чым яе бацькі. Дзяўчынка расказвае яму шмат, бо мудры кот слухае яе, не перабіваючы. А яшчэ ў Зойкі ёсць плюшавы мядзведзь, яна засынае, абняўшы яго, калі вяртаецца з вячэрняй «тусоўкі» у скверы.

Зойка — цынічны і скептычны чалавек. Яна ж — з «таго» пакалення. Але аднойчы мы глядзелі разам фільм «Лэдзі Джэйн». Прыгожую трагедыю аб каханні Зойчыных равеснікаў сярэднявечча. Ужо пайшлі цітры, ужо я выключыла тэлевізар, адразу пасля гэтага пазбавіўшыся ад уражання, якое зрабіла вочы вільготнымі, а Зойка сядзела і... горка-горка плакала...

Аднойчы Зойка расказала мне пра выпадак у аўтобусе. Яна сядзела, калі ў аўтобус увайшла пажылая жанчына. Зойка памкнулася, каб саступіць ёй месца, але раптам пачула, як тая ўголас абураецца: «Вы паглядзіце на гэту кудлу. Сядзіць і не думае ўстаць!» Зразумеўшы, што словы адрасаваны ёй, Зойка засталася сядзець, упарта гледзячы ў акно... Расказваючы мне гэта, дзяўчына хвалявалася. А потым неяк адчайна спытала: «Чаму яны з намі так?»

***

Не ведаю я, Зойка, чаму так. Можа, сюжэт «Бацькі і Дзеці» набыў новыя, гратэскныя формы?

Нядаўна я пісала пра постмадэрнісцкую суполку. Тлумачачы непрыманне таго, што яны робяць, акадэмічнымі крытыкамі, адзін з арганізатараў суполкі сказаў: «Гэта проста нянавісць забойцаў у белых халатах да светлай мары іх дзяцінства, якая не збылася, — добрага доктара Айбаліта». Можа, гэту вобразную фразу не толькі да літаратуры, але і да ўсяго жыцця прымяніць можна?

Новае пакаленне ўпэўнена ўвойдзе ў жыццё на тоўстых высокіх абцасах і будзе старацца зрабіць яго лепшым. Так будзе. Калі Бацькі не будуць забывацца, што Дзеці — перш за ўсё — дзеці.

Вы не верыце? Вы скептычна ўсміхаецеся? Што ж, праверыць няскладана. Тут дарэчы проста сказаць: «Пажывём — пабачым».

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# Абразкі — ад Машы Водневай

**Як ствараецца талент? Адкуль бярэцца? Што гэта — проста вызначаны набор храмасом, перададзены чалавеку продкамі, ці нейкая метафізічная з'ява? Я не ведаю. І ніхто не ведае. Адсюль — таямнічасць і вечнае здзіўленне ад немагчымасці растлумачыць.**

**Я думаю, чалавек у сваім ненасытным імкненні ўсё ведаць павінен рабіць выключэнні. Такія астраўкі. Штосьці не трэба ведаць. Хопіць здагадак. Тады застанецца шарм невядомасці. Як бы раскошнае адзенне, якое здымі — і нічога новага не ўбачыш, бо глядзіш не туды і не так...**

**Маша Воднева ўсяго толькі школьніца. Усяго толькі, бо ўсё — наперадзе. Яна перайшла ў 8 клас 25-й мінскай школы. Праўда, па здольнасці шукаць патрэбныя словы і ставіць іх у патрэбным парадку, інакш, здольнасці пісаць мастацкую рэч, я паставіў бы яе значна вышэй за некаторых калег. Якія проста забылі, што факты фактамі, а спачатку трэба элементарна ўмець пісаць. Ну, калі не так, як Маша, дык хоць прыблізна так. Безумоўна, цяжка. Але якая дастойная задача!..**

**Апрача пісання такіх вось абразкоў, Маша малюе. Піша казкі. Займаецца ў тэатральным гуртку. Проста фантазіруе. Нарэшце, марыць стаць біёлагам. Што мне не зусім зразумела. Зрэшты, можа быць, я разважаю як чалавек, які ўсё гэта прайшоў. Мне, дапусцім, ясна, чым Машы трэба займацца ў жыцці. Ёй, напэўна, — пакуль не. Спяшацца ўвогуле не трэба. Якая страсць Машу пацягне за сабою — тая, значыць, і ёсць асноўная. Ва ўсякім разе, усё, што зараз пры ёй, застанецца і потым.**

**Мне застаецца пажадаць Машы толькі аднаго: заставацца сабою. І ўсё будзе добра.**

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ЭЦЮД



Здавалася, снег не выпадзе ўжо ніколі. Заўсёды будзе вось гэткая мярзота — цёмныя лужыны з танюткай коркай ільду, пракіслая зямля, пакрытая гнілым лісцем, голыя і чорныя галіны дрэў.

Але не! Ноччу пайшоў снег — ды які! Раніцай усё навокал зрабілася бялюткім. А снег — як цукровая вата. Хацелася ўзяць яго ў далоні, паднесці да рота і асцярожна лізнуць... Смейцеся з мяне, смейцеся, што я — наіўнае дзяўчо. А вось схаплю зараз вось гэту сняжынку, быццам матылька якога, — ага! І разгледжу яе. Толькі дзе ж яна? Знікла. Назусім.

...Увечары мароз памацнеў, пачаў кусаць нос, шчокі. На неба, як на поле, ноч сыпанула жменю буйных зорак. Вунь відаць сузор'і Казярога, Вадалея, Скарпіёна. Здаецца, Скарпіён злосна шчоўкае сваім джалам, а Вадалей ілье на зямлю неспыняльны паток зорнага святла. Выйшаў маладзенькі месяц, і заблішчалі яго срэбныя рожкі. Успомнілася «Ноч перад Калядамі». Праляцела крыху бачная хмарка, а здаецца, то чорт кінуўся да месячыка і зараз схопіць яго. Чаго толькі не ўбачыш у начным небе!

А на зямлі снег. Белы і чысты. Стаіш гэтак, дзівішся і раптам захочацца нырнуць глыбока-глыбока ў гэта бялюткае мора, зліцца з гэтай светласцю. Снег — такое цуда прыроды. Наогул, прырода шмат стварае цудоўнага. І шкада, што ў чалавека няма часу палюбавацца ўсім гэтым.

# СВЕТ, НАПОЎНЕНЫ СВЯТЛОМ

**«На адной з ціхіх лонданскіх вуліц пражывала сям'я Дарлінгаў. Зразумела, былі ў ёй тата і мама Дарлінгі. А яшчэ Вэндзі, Майкл і Джон — іхнія дзеці... Больш за ўсё і сабака, і дзеці любілі той час, калі іх укладвалі спаць. Як толькі малодшыя Дарлінгі са сваёй нянькай (сабакам Нэнай. — Т. С.) заставаліся ў пакоі адны, старэйшая сястра Вэндзі пачынала распавядаць захапляльныя гісторыі пра прыгоды Пітэра Пэна. Ён жыў у Немагчымай краіне, дзе пражывалі прыгажуні-русалкі і чараўніцы-феі, ваяўнічыя індзейцы і бандыты-піраты. І ніхто не сумняваўся, што расповяды Вэндзі не выдумка, а чыстая праўда...»**

**Так пачынаецца адна з найлюбімейшых казак маёй дачкі — казка пра Пітэра Пэна. І амаль гэтак жа можна было б пачаць сапраўдную гісторыю, што адбылася ў Беларусі. На адной з ціхіх мінскіх вуліц жыла сям'я Мяцельскіх, і былі ў ёй тата і мама, а яшчэ — іх дзеці, Ніна і Марыля. І малодшая дзяўчынка была ў тым узросце, калі дзіця не хоча засынаць без казкі, і, калі тата з мамай былі чымсьці занятыя, цудоўныя гісторыі Марылі расказвала старэйшая сястрычка Ніна. І жылі ў іх русалкі, феі, дамавікі, лялькі, птушкі і жывёлы, і ніхто не сумняваўся, што жыццё іх — не выдумка, а чыстая праўда...**

**Калі Марылі было 6 гадоў, а Ніне — 9, першыя казкі былі занатаваны ў вучнёўскі сшытак. Гэта здарылася летам падчас школьных канікулаў, у вёсцы Урэчча на Случчыне, дзе жылі яе дзядуля і бабуля. Спачатку казкі пісаліся на рускай мове. А потым нешта здарылася: ці то маленькі цуд, ці то проста натхненне, ці цяга дзіцячай чыстай душы да спрадвечнага і такога ж чыстага? Гарадская дзяўчынка раптам пачала пісаць вершы, казкі па-беларуску, адразу засвоіўшы ўвесь слоўнік, нібыта яе падсвядомасць трымала мову ў запас.**

**Бацькі Ніны падышлі да гэтай з'явы далікатна і разумна, вырашыўшы: не трэба перашкаджаць, умешвацца ў дзіцячую душу. Бо дзіўнае вяртанне да каранёў нагадвала жывы парастак кветкі, што прабіўся да святла праз тоўшчу гарадскога асфальту.**

**Зараз Ніне Мяцельскай 13 гадоў. Дзяўчынка малюе, займаецца музыкай, піша казкі, вершы... І Марыля, што падрасла, пайшла па яе шляху: напісала, напрыклад, словы да «Времен года» Чайкоўскага, паклала на музыку вершы Ясеніна.**

**Таццяна СНІТКО.**

# АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ КОШКІ МУРКІ

Аднойчы на падлозе я знайшла скамечаны лісток паперы ў клетачку. Я падняла яго з падлогі і прачытала. Там крывымі літарамі, з мноствам памылак, якія я потым выправіла, было напісана:

«20 лютага 1995

Сёння са мною адбыліся сапраўдныя прыгоды (раніцай, калі я прачнулася, я нават не думала, што гэткае можа здарыцца з такой маленькай шэранькай і непрыметнай кошкай, як я, дый увогуле можа здарыцца). Апішу ўсё па парадку, як яно і было...

Па праўдзе кажучы, я даўно ўжо прыглядалася да акварыума з чырвонымі рыбкамі, якія называюцца, памойму, мечаносцамі, але ўсё не было падыходзячага моманту, каб разабрацца з імі як след. А гэтай раніцай на табе: нікога ў хаце няма. Толькі Тузік, ды і той спіць як забіты. Я, не марнуючы часу, скокнула хутчэй да акварыума. Села на краёчак, каб зручней было рыбак хапаць. Ды раптам закруцілася ў мяне галава, я страціла раўнавагу і ўпала ў ваду...

Не ведаю, колькі часу я была ў непрытомнасці. Калі ачомалася, то ўбачыла, што мяне абступілі чырвоныя рыбы-мечаносцы. Толькі чаму яны такія вялізныя? Яны аб чымсьці спрачаліся. Я падумала сама сабе, што зусім з глузду з'ехала: рыбы нямыя, яны не могуць спрачацца. Потым мне прыйшла ў галаву яшчэ адна думка: як гэта я дыхаю ў вадзе? Я працерла вочы: не, усё адбываецца на самой справе.

— Ну, вось бачыце, яна ачуняла! — ускрыкнуў адзін мечаносец у пенснэ, пад гальштукам і з палачкай(!).

— Ачуняла то яна ачуняла, ды ведаеце што, — дадала чырвоная рыбіна ў пышнай доўгай сукенцы (такіх даўно не носяць). — Яна ж хацела нас з'есці.

— Так, так, — пацвердзіла маладзенькая рыбка ў капялюшыку з кветкамі. — Я сама бачыла.

— Трэба выклікаць паліцыю, — сказала тая ж рыбіна ў доўгай старамоднай сукенцы. — Яна ўяўляе сур'ёзную пагрозу для нашага рыбнага грамадства.

— Чакайце. Мо яна не зусім здаровая, — не пагадзіўся стары мечаносец з палачкай. — Яе спачатку трэба адвезці ў шпіталь. Спадарыня, — звярнуўся мечаносец да мяне, — ці можаце вы хадзіць?

Я толькі і магла, што хітнула галавой. Мечаносец глядзеў на мяне сваімі лупатымі вачыма ці то з цікавасцю, ці то з жалем. Я ж глядзела на яго са здзіўленнем, не разумеючы, што адбываецца...»



Гэта ўсё, што я змагла прачытаць на гэтай паперцы. Але мне стала цікава, што адбылося далей? Я здагадалася, што гэта паперка вырвана з дзённіка маёй сяброўкі кошкі Муркі. Я ўпотай ад яе (няхай яна даруе мне гэта!) узяла дзённік і перапісала канчатак неверагоднай гісторыі для вас. Вось што адбывалася далей:

«Потым два мечаносцы на насілках (лепей будзе сказаць: на вазілках) завезлі мяне ў шпіталь. На парозе мяне сустрэлі тры медсястры (яны і сапраўды, як я потым даведалася, былі сёстрамі), але гэта былі не чырвоныя мечаносцы, а вясёлыя паўпразрыстыя тэтры.

У самім шпіталі было вельмі ўтульна. Усё было белае, чыстае, мяне паклалі на мяккі ложак з чысцюткай бялізнай і цёплай коўдрай. Я задрамала, але хутка мяне пабудзілі медсёстры.

— Прачынайцеся, спадарыня, нам трэба вас агледзець.

Яны пракантралявалі мяне ад хваста да кончыкаў вусоў.

— Вы здаровы, спадарыня, — паведаміла адна з іх. — Сёння ж мы вас выпішам.

Мне не хацелася адтуль ісці, але што рабіць? Наколькі я ведала, зараз мне трэба было ў паліцыю. За мной прыедзе тая рыбіна ў доўгай сукенцы. Але чамусьці я не баялася, што мяне пасадзяць у турму. Мне было неяк спакойна ў гэтым шпіталі.

Неўзабаве прыехала тая чырвоная рыбіна.

— Як вы сябе адчуваеце? — спытала яна.

Я маўчала. Яна недаверліва пакасілася на мяне.

— Зараз мы паедзем у паліцыю, таму што вы мелі намер мяне і іншых рыб з'есці. Я кажу праўду, ці не так?

Я пачухала за вухам.

— Уставайце, нас там ужо зачакаліся. Дарэчы! Я забылася — вам вынеслі прысуд: смяротная кара.

Тут я не сцярпела: крыўда, жах смерці апанавалі душу.

— А як жа суд?! — закрычала я.

— Які суд? А, вы кажаце пра суд, які ёсць у вас? У нас такога няма.

— Як гэта няма?

— У нас так. Ваш адвакат кажа: «Яна не вінаватая». Той, хто вас абвінавачвае, кажа: «Вінаватая». Потым суддзя падкідвае ўгору манетку. Ваша абарона выбрала рэшку, абвінавачанне — арла. Выпаў арол. Вас павінны пакараць.

— А калі б выпала рэшка?

— Вас бы адпусцілі. У нас заўжды так: ці адпускаюць злачынца, ці караюць яго. У нас нават турмаў няма.

— А адкуль вы ведаеце, што ў нас ёсць турмы?

— Ведаю.

Мы паехалі ў паліцыю. Больш я не размаўляла. Там мне далі медаль смяротніцы з чыстага золата. На гэтым медалі чорнымі літарамі было напісана маё імя. Мяне павялі ў камеру пакарання. Аказалася, маім адвакатам быў той мечаносец, што адвёз мяне ў шпіталь.

— Прабач... — сказаў ён, калі мяне рыхтавалі да пакарання. А потым надзеў чырвоны катаўскі каўпак, узяў сякеру і замахнуўся. Я зноў страціла прытомнасць...

Калі я зноў ачуняла, то ўбачыла, што ляжу ў сваёй кватэры на падлозе. Тут я ўзрадавалася, што гэта ўсё мне прыснілася, але раптам заўважыла побач медаль смяротніцы, які зіхацеў чароўным бляскам, і маленькую-маленькую сякерку».

Калі я дачытала, я не магла паверыць, што такое магло здарыцца. Але з дзённіка мне на далонь выпалі дзве маленькія бліскучыя рэчы: сякерка і медаль...

**Малюнак і казка Ніны МЯЦЕЛЬСКАЙ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ЗАНЕПАКОЕНА...

**Міністэрства адукацыі і навукі з нагоды апублікавання ў газеце «Звязда» ад 20 чэрвеня 1996 г. ліста групы навукова-педагагічных работнікаў звяртае ўвагу грамадскасці на тое, што ў ім у скажоным і прадузятым выглядзе пададзены сутнасць і характар абмеркавання на калегіі вынікаў працы камісіі міністэрства па праверцы заяў праф. Белдзяржуніверсітэта Навумчыка У. М.**

З ліста вынікае, што «дзякуючы службоваму становішчу Аляксандра Уладзіслававіча, яго наватарству, беларуская школа здолела ў 90-я гады зрабіць значны рывок у развіцці сістэмы альтэрнатыўнай адукацыі шляхам стварэння сеткі навучальных устаноў новага тыпу». Такое сцвярджэнне аўтараў фактычна перакрэслівае працу сотняў навукоўцаў і педагогаў-наватараў, супрацоўнікаў дзяржаўных органаў, якія прыклалі шмат сіл і намаганняў для ўкаранення педагагічных навацыйных каштоўнасцей. Гэта, па сутнасці, прыпісваецца аднаму чалавеку. А. У. Казулін з 1988 года з'яўляецца памочнікам міністра, з 1992 г. — намеснікам міністра па фінансавых пытаннях і матэрыяльна-тэхнічнага развіцця. Ніхто не аспрэчвае пэўнага дачынення Казуліна А. У. да арганізацыйных і навуковых распрацовак узнятых праблем. Аднак нельга пагадзіцца з такой ацэнкай фактаў аўтарамі пісьма.

У зневажальным тоне аўтары ліста раздаюць таксама ацэнкі і абагульненні работнікам міністэрства — «гатовы нічога не рабіць, толькі б не парушыць уласны спакой і дабрабыт». Стыль ліста, яго змест закранае годнасць дзяржаўнага служачага, прыніжае намаганні педагагічнай грамадскасці рэспублікі.

Лічым неабходным выкласці факты і асвятліць ход і рашэнні калегіі ад 7 мая гэтага года.

Калегія не ставіла перад сабой мэту аналізаваць, абмяркоўваць навуковыя вартасці дысертацыі намесніка міністра А. Казуліна. Правяраліся абставіны, звязаныя з падрыхтоўкай кваліфікацыйнай працы на суісканне ступені доктара педагагічных навук. У сувязі з гэтым былі прыняты да ведама вывады камісіі пра тое, што доктарская дысертацыя А. Казуліна не адпавядае патрабаванням Палажэнняў аб прысуджэнні навуковых ступеняў, дзеючых у Рэспубліцы Беларусь і Расіі, у частцы асабістага ўкладу аўтара. У працэсе абмеркавання доктарскай дысертацыі А. Казуліна па месцы выканання даследаванняў у Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў дапушчана грубае парушэнне ўстаноўленага парадку ацэнкі дысертацыйнай працы і афармлення вынікаў абмеркавання. Камісія паведаміла пра тое, што былі дапушчаны факты фальсіфікацыі дакументаў, пададзеных у спецыялізаваны савет Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя У. Леніна і ў ВАК Расійскай Федэрацыі.

Калегія прыняла рашэнне лічыць дзеянні намесніка міністра адукацыі і навукі А. Казуліна ў сувязі з падрыхтоўкай да абароны доктарскай дысертацыі несумяшчальнымі з займаемай пасадай. Тады ж было прынята рашэнне разгледзець на пасяджэнні Калегіі Міністэрства пытанне аб рабоце Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі і аб персанальнай адказнасці рэктара названага інстытута А. Жука ў сувязі з выкладзенымі абставінамі.

Вынікі працы камісіі міністэрства аб высвятленні ступені ўдзелу А. Казуліна ў правядзенні навуковых даследаванняў аб'ектыўна і дастаткова поўна асветлены ў публікацыі «Звязды» ад 28 мая 1996 г., таму няма неабходнасці абмяркоўваць іх зноў.

На разгляд калегіі былі пададзены факты падробкі ў пісьме міністэрства ў БелВАК даты і сутнасці пісьма БелВАКа ў Маскоўскі педуніверсітэт, што мела на мэце паскарэнне абароны дысертацыі. Дзіўным выглядае і застаецца нерастлумачаным, чаму прыём дысертацыі аформлены 3 лістапада 1995 г. і перадабарона ў Маскве аформлена 15 лістапада з асабістым удзелам аўтара, тады калі ў БелВАК пісьмо з міністэрства, якое давала дазвол на падачу дакументаў у Маскву, паступіла толькі 16 лістапада(!) 1995 года.

Членам калегіі быў абнародаваны факт фальсіфікацыі акта аб укараненні навуковых вынікаў, які падаваўся ад імя міністэрства. На акце маецца ўласны подпіс А. Казуліна, што засведчыў яго «дакладнасць». Было высветлена, і гэта пацвердзіў сам суіскальнік на пасяджэнні калегіі, што А. Казулін удзелу ў афіцыйнай перадабароне ў Маскве 15.11.1995 г. не браў.

У працэсе працы калегіі ўстаноўлена, што заключэнне арганізацыі, у якой афармлялася дысертацыя, пададзенае А. Казуліным у савет, з'яўляецца фальсіфікаваным. У ім, у прыватнасці, значыцца, што прафесар Казімірская І. І. рэкамендавала працу Казуліна А. У. да абароны на пасяджэнні супрацоўнікаў лабараторыі ў чэрвені 1995 г. Пра такі свой «удзел» прафесар даведалася толькі напярэдадні правядзення калегіі, у маі 1966 г.

Такім чынам, гаворка ідзе не пра недахопы ў афармленні, а пра фальсіфікацыю намеснікам міністра адукацыі і навукі афіцыйных дакументаў. Такі характар дзеянняў А. Казуліна, накіраваных на атрыманне навуковай ступені доктара педагагічных навук, і з'явіўся падставай для прыняцця рашэння калегіі аб неадпаведнасці такіх дзеянняў намесніка міністра адукацыі і навукі займаемай пасадзе.

Міністэрства адукацыі і навукі выказвае заклапочанасць тым, што сітуацыі падобнага роду кампраметуюць педагагічную навуку, перашкаджаюць планамернаму функцыянаванню, з'яўляюцца недапушчальным і грубым парушэннем службовых адносінаў.

**P.S.** ***Нядаўна стаў вядомы факт прысуджэння Расійскім ВАКам намесніку міністра адукацыі і навукі А. Казуліну навуковай ступені доктара педагагічных навук. Пры тым, што ні адзін з фактаў, што былі ў аснове вывадаў камісіі, не быў абвергнуты...***

**Прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі і навукі.**

# ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА: ВАЛЯВЫЯ МЕТАДЫ НАВЯДЗЕННЯ Ў ІМ ПАРАДКУ СУПЯРЭЧАЦЬ ЯГО ДУХУ...

НАША РЭЧАІСНАСЦЬ выдае самыя незвычайныя формы попыту і прапанавання. Адну з іх, з якой прыйшлося сутыкнуцца, можна назваць так: «куплю фірму». Г. зн. з пячаткай і іншай атрыбутыкай. З тым, каб потым, скажам, на законных падставах займацца пэўным відам дзейнасці. Словам, працаваць, плаціць у бюджэт падаткі, у якім, як ведаем, цяпер зусім не густа, і г.д. Вось такую незвычайную форму попыту (а магчыма, разам з тым і адпаведнага віду бізнесу) выклікала прыпыненне з лютага рэгістрацыі новых суб'ектаў гаспадарання...

Непазбежнае ўдакладненне: аднак быў жа ўжо Указ «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання», пасля выхаду якога, як даводзіў праз друк памочнік Прэзідэнта, «забарона на рэгістрацыю нанава створаных суб'ектаў гаспадарання аўтаматычна знята»... Так, указ быў. Яшчэ ў маі, а рэгістрацыя, тым не менш, не аднавілася і цяпер. Як паведамілі ў Мінскім гарвыканкоме, ва ўказе даручана распрацаваць пэўны парадак рэгістрацыі, а яго пакуль няма. Карацей — «ждем-с...» Дарэчы, а чым жа не задавальняе нашы ўладныя структуры той парадак рэгістрацыі, які існаваў да гэтага? Заканадаўча вызначаны...

Не надта шанцуе ў нас прадпрымальніцтву, якое, па сутнасці, нясе ў сабе галоўны выклік каманднай эканоміцы, з'яўляецца асновай свабоднай эканомікі, ставіць чалавека ў незалежныя ад дзяржавы адносіны (вядома, адносна незалежныя). Яшчэ на пачатку свайго нараджэння яно зведала непрыманне масавай сацыялістычнай свядомасцю, якая не магла дазволіць абсалютна гэткаму ж, як «я», суседу, і, можа, нават менш прыметнаму, чым «я», мець больш. Нават імкнуцца мець больш. Выхаванае гадамі пачуццё рэвалюцыйнай справядлівасці патрабавала абсалютнай роўнасці, не прымала ў разлік таго, што, магчыма, сусед не жадаў мець столькі, колькі лёс пашле, колькі «адмераць», што ён таксама не жадаў бавіць час за гульнёй у «казла». Яму не даравалася, што ён кіруецца выключна ўласнай выгадай (зрэшты, гэта ж абвінавачанне гучала і гучыць часам і з вуснаў высокапастаўленых барацьбітоў за чысціню ідэі, якія, тым не менш, маюць шыкоўныя асабнякі і наўрад ці падзеляцца месцам у іх). Пачуццё патрабавала выхаду. Звычайна прадпрымальніцтва звязваюць (і ўвогуле абгрунтавана) з гандлёвай дзейнасцю, якой, аднак, пачуццё асабліва не церпіць — па начах пачалі гарэць пакуль яшчэ вельмі прымітыўныя набыткі прадпрымальніцтва — прымітыўныя ж гандлёвыя кіёскі.

Прадпрымальніцтва, аднак, не знікла і нават паспела выхаваць больш лаяльныя адносіны да сябе ў многіх грамадзян. Заслужана. Пераважна цэнамі, якія сталі намнога ніжэйшымі, чым у дзяржавы, што, аднак, няйначай, выклікала законную трывогу ўжо ў ахоўнікаў яе манаполіі. Пэўныя манапалістычныя захады (дарэчы, пад сцягам барацьбы за здароўе грамадзян) праведзены ў адносінах да алкагольна-тытунёвай прадукцыі. Аднак няхай. Можа і сапраўды так здаравей. Галоўнае, каб не дайшло да добра вядомых касталомных чэргаў за гэтай прадукцыяй. Здаецца, пакуль усё абыходзіцца... Былі яшчэ «касавыя» меры, г.зн. меры па прымусоваму ўкараненню ў прадпрымальніцкае асяроддзе касавых апаратаў. Можа, таксама патрэбныя меры, хоць, дарэчы, у Саюзе прадпрымальнікаў мяркуюць, што прасцей было б увесці фіксаваныя плацяжы з прадпрымальнікаў у бюджэт (бо, вядома ж, апараты — з мэтай кантролю тых жа плацяжоў), і не трэба было б гэтага татальнага кантролю; хоць, увогуле, асобныя моманты ўкаранення «касаў» не могуць не здзіўляць. Напрыклад, вось што расказаў адзін з прадпрымальнікаў: як надзвычай дысцыплінаваны чалавек, ён адразу ж набыў касавы апарат, а «зверху» праз нейкі час яшчэ адно распараджэнне, а ў ім пералічаны пэўныя віды «касаў», якія толькі і належала выкарыстоўваць, і ніякіх іншых. Паглядзеў свой — аказалася, не трапіў у спіс, раскашэльвайся зноў... Праўда, мяркуючы па ўсім, раскашэльвацца нашаму прадпрымальніку не давялося: раптам высветлілася, што яго кіёск і яшчэ 12 іншых ніяк не ўпісваюцца ў інтэр'ер размешчанай ззаду пусткі...

Так, час ад часу ажыццяўляюцца меры, скажам так, па ўпарадкаванню вулічных павільёнаў прыватнага гандлёвага бізнесу, у выніку чаго асобныя павільёны знікаюць назусім, і іншыя прафілактычныя меры...

Але, відаць, найбольш буйныя выпрабаванні ў прыватнага бізнесу (прычым бізнесу ўвогуле, не толькі гандлёвага) — наперадзе. Як паведамілі ў Саюзе прадпрымальнікаў, рыхтуецца распараджэнне, якім намячаецца забараніць набыццё прыватнымі структурамі валюты. Увогуле, як вядома, валюты няма. І дзеля аб'ектыўнасці варта зазначыць, што яе многія прыватныя структуры і цяпер практычна не могуць купіць, здабываюць усімі праўдамі і няпраўдамі. Пры гэтым ужо цяперашняя сітуацыя ставіць пад пагрозу цяперашнюю напоўненасць нашых гандлёвых паліц, ужо цяпер асобныя фірмы не могуць аплаціць свае замежныя кантракты, разлічыцца нават за ўжо прададзеную прадукцыю, якую яны бралі «пад рэалізацыю»... Знікненне так званага некрытычнага імпарту можа прывесці да нежартоўнай, ужо добра знаёмай крытычнай сітуацыі з забеспячэннем таварамі народнага спажывання. Ці гатовы нашы айчынныя вытворцы поўнасцю запоўніць тыя ж паліцы, прычым па цане не вышэй за цану імпарту?.. Вытворцы пакуль пераважна ўсё тыя ж, дзяржаўныя, а як забяспечвалі яны раней, мы ўжо няблага ведаем. Наўрад ці лепей атрымаецца і цяпер.

Нарэшце, пэўныя выпрабаванні нясе той жа ўказ (дарэчы, прыпыненне рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання на 5 месяцаў, тэлеграмай, ужо само па сабе выклікае пытанні. Скажам, дзе тая ж свабода прадпрымальніцтва? Выходзіць, «хто не паспеў, той спазніўся?» Гэта і ёсць элемент свабоднага рынку, рыначнай канкурэнцыі?) Вось як каменціруе гэты ўказ, а таксама некаторыя іншыя моманты, звязаныя са станаўленнем недзяржаўнага сектара эканомікі, віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа:

— Па-першае, ёсць заканадаўча вызначаная дзяржаўная рэгістрацыя, у выніку адразу паўстае пытанне адносна законнасці новай рэгістрацыі і перарэгістрацыі, адносна законнай сілы і адпаведных тэлеграм. Па-другое, ніякімі сіламі ўладаў за адведзены тэрмін гэтай аперацыі не правядзеш. У нас усіх суб'ектаў гаспадарання, з улікам прыватных прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы, каля 300 тысяч — аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому, прызначаным правесці перарэгістрацыю, гэтага яўна не пацягнуць. Думаю, што акрамя тых, хто па нейкіх прычынах пакуль не займаецца намечанай дзейнасцю, а значыць выбывае аўтаматычна, знікне яшчэ каля 100 тысяч суб'ектаў, якія проста не паспеюць прайсці перарэгістрацыю, або, з улікам надзвычай ужо, з дазволу, уважлівых адносінаў да прадпрымальніцтва, проста махнуць на ўсё рукой (ужо так робяць). Гэта колькі тых жа падаткаплацельшчыкаў выбудзе, для якіх, між іншым, не робяць ніякіх адтэрміновак і спісанняў?.. Так, каля паловы суб'ектаў стратныя, відавочна, што многія падобным чынам ухіляюцца ад падаткаў (варта прыгадаць: надзвычай важкіх)... Але ж няхай за гэтым сочыць падатковая інспекцыя, гэта — яе хлеб. І навошта стратнасць, згодна з указам, падводзіць пад умову далейшага існавання суб'екта — з пункту гледжання адміністратара, дзяржаўнага чыноўніка, а не Закона аб банкруцтве? Навошта ў выканкомах глядзець яго бізнес-планы, правяраць? Там іншых спраў не знойдзецца? Дарэчы, няхай і стратныя, але ж самі сябе кормяць — ужо добра.

А, скажам, як уплывае на забеспячэнне жыццядзейнасці пэўнага рэгіёна тое, наколькі хутка рухаюцца на рахунку нейкага прадпрымальніка сродкі? Згодна з тым жа ўказам, адсутнасць руху на працягу 6 месяцаў — гэта таксама немаведама якое парушэнне, адна з падстаў для забароны дзейнасці...

Нельга не закрануць тут і банкаўскага ўказа № 209, адзін з пунктаў якога прадугледжвае індэксацыю дзяржаўных сродкаў — гэта прамое парушэнне правоў іншых акцыянераў...

Зразумелае жаданне папярэдзіць усякія парушэнні, выкараніць усякае махлярства і г.д. — на жаль, падобных з'яў хапае. Толькі ж не трэба ўсё зводзіць да знакамітага прынцыпу: крок улева, крок управа... Законы, якія вызначаюць правілы паводзінаў, пішуцца для паслухмяных людзей, для парушальнікаў жа існуюць іншыя законы. Не трэба скіроўваць усю сутнасць закона на тое, каб менавіта злавіць... Трэба хоць бы часткова спыніць усё гэта, інакш ужо к восені мы можам убачыць у сябе «паўшыя» банкі і толькі рэшткі рыначных структур... І гэта пры нашым глыбокім сістэмным эканамічным крызісе. Усё гэта, у комплексе з іншымі непрыемнасцямі, здольна ўжо к той жа восені прывесці нашу эканоміку ў хаатычны стан.

Варта пагадзіцца з А. Патупам: у выніку рэалізацыі адпаведнага ўказа могуць спыніць сваю дзейнасць многія прадпрымальніцкія структуры, па сутнасці, указ і мае сваёй мэтай істотнае ператрэсванне менавіта іх (ну, напэўна, ніхто не будзе ўсур'ёз успрымаць заяву аднаго з кіраўнікоў Адміністрацыі, што калі ў неэфектыўнай рабоце будзе выкрыта дзяржаўнае прадпрыемства, то і адносна яго будзе ставіцца адпаведнае пытанне. Колькі такіх неэфектыўных, якія бясконца паглынаюць бюджэтныя сродкі.. І нічога, існуюць). Прычым, могуць спыніць і з-за нейкіх нязначных дробязей (з-за той жа адсутнасці руху сродкаў), якія, па вялікаму рахунку, павінны хваляваць толькі самога прадпрымальніка і нікога больш...

Увогуле, уладам у гэтых адносінах, відаць, куды больш карысна было б адточваць практыку безумоўнага збору падаткаў, а не практыку ўсякіх забарон; практыку расшырэння кола падаткаплацельшчыкаў, а не звужэння яго (і не ўзмацнення чыноўнай ласкі і дыктату, што, па сутнасці, адно і тое ж і чаго таксама варта чакаць). Гэта было б намнога карысней для таго ж бюджэту, становішча якога цяпер, як адзначалася ўжо, далёка не бліскучае.

Аднак, відаць, больш важна адзначыць наступнае: са знікненнем пэўных прадпрымальніцкіх структур знікнуць і пэўныя рабочыя месцы. Па словах А. Патупы, толькі каля кожнай гандлёвай кропкі «корміцца» 5-6 чалавек... Цяпер у рэспубліцы, толькі згодна з афіцыйнай статыстыкай, якая ўлічвае далёка не ўсё, колькасць беспрацоўных зарэгістравана на ўзроўні 3,7 працэнта ад эканамічна актыўнай колькасці насельніцтва (Характэрна: іх колькасць значна павялічылася сёлета, што можна звязаць з дзеяннем тэлеграмы «аб прыпыненні»). Вельмі верагодна, што ў ходзе правядзення перарэгістрацыі гэты паказчык рэзка ўзляціць уверх. Ці гатовы на дзяржаўных прадпрыемствах стварыць новыя рабочыя месцы? Пры гэтым можна не прыгадваць ранейшы вопыт усеагульнай занятасці, а значыць і спадзявацца на далейшую адпаведную перспектыву. Тая занятасць у немалой ступені грунтавалася на неэфектыўнай працы, на бескарыслівым перамалочванні рэсурсаў, ад чаго імкнёмся адысці цяпер.

З усёй відавочнасцю трэба прызнаць, што пасля пэўных і далёка не рашучых рыначных крокаў мы зноў аказаліся перад выбарам курсу: ісці далей рыначным шляхам ці рабіць ухіл на дзяржаўнае рэгуляванне, на дзяржаўны ж сектар. Па сутнасці, вызначэнню курсу будуць прысвечаны парламенцкія слуханні прапаноў па фарміраванню эканамічнай палітыкі, якія падрыхтаваны Камісіяй ВС па эканамічнай палітыцы і рэформах. Можна меркаваць, напрамую будзе ўвязваць свае прапановы з пэўным курсам эканамічнай палітыкі і часовая камісія, якая працуе ў Нацбанку над сваім планам стабілізацыі. Якія накірункі возьмуць верх? Безумоўна, альтэрнатывы рыначнаму курсу няма. У тых жа прапановах камісіі ВС настойліва праводзіцца думка пабудовы адкрытай, максімальна свабоднай ад адміністрацыйна-чыноўніцкага ўмяшання эканомікі. Урэшце, увесь сэнс эканамічных пераўтварэнняў у тым, каб замяніць ранейшую крайне неэфектыўную камандную эканамічную сістэму на іншую, пераважна самарэгулюемую. Аднак варта цалкам усвядоміць: гэтага не адбудзецца без выканання найгалоўнейшай умовы — змены ўласніка, без рэалізацыі канкрэтных практычных дзеянняў у адпаведным напрамку. А не ў адваротным, што заганяе новага ўласніка ў «цень», у крымінал, гоніць яго за мяжу. Мы цяпер гэтак молімся на замежнага інвестара — і з пэўнымі пагрозлівымі артыкуламі ўказаў і законаў ганяемся за сваім. Але ж і замежны інвестар пры гэткіх падыходах не паспяшаецца, ён увогуле лічыць за лепшае мець справу менавіта з прыватным суб'ектам, а не з дзяржаўным, улічвае агульную абстаноўку спрыяльнасці, добразычлівасці з боку грамадства, і ў першую чаргу з боку ўладаў.

Між іншым, ва ўсім свеце існуе заяўляльны прынцып суб'екта аб пачатку дзейнасці — у нас жа гэтага суб'екта напачатку прагоняць праз мноства кабінетаў, ды яшчэ пачынаючаму «нуварышу» ўжо адразу трэба мець немалую суму грошай. Каб пачаць. У нас дзяржаўны чыноўнік дзеліць прыватныя структуры на «карысныя» і «некарысныя», «рэгулюе», колькі суб'ектаў павінна займацца асобным відам дзейнасці... Прабачце, ды які рынак мы будуем, у вернасці якому клянуцца асобныя адказныя асобы, і ці рынак гэта, ці не пераблыталі часам?.. У нас амаль у кожным прадпрымальніку і камерсанту схільны бачыць жуліка і злодзея, а між іншым, ці не ад гэтага многія з іх сапраўды пачынаюць «рохкаць».

Яшчэ раз варта падкрэсліць: зразумелыя матывы іншых мераў — у іх аснове імкненне навесці парадак, непакой за тую «пену», якая з'яўляецца пад маркай прадпрымальніцтва і якой бывае надзвычай шмат. Але «пену» трэба вучыцца ўмела і прафесіянальна «здымаць». Спроба ж навесці парадак валявымі метадамі супярэчыць самому духу свабоднага прадпрымальніцтва.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

